


БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
ZAPISY — The Quarterly of the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences

Vol. II NEW YORK 1953 No. 1 (3)

ЮРКА ВІЦЬБІЧ

# *У пошуках Альгердавага шляху*

**Аляксей Сапуноў**
**1852 — 1924**

„... Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак
І бачанаму ім — ён годны веры сьветак"

**Максім Багдановіч — „Летапісец"**

Стагодзьдзе таму ў мястэчку Усьвятах Вялiскага павету, Віцебскае губэрніі, у сям'і незаможнага кажамякі Пархвена Сапунова нарадзіўся сын Аляксей. Пачуўшы крык дзіцяці, заўсёды суворы, прапахлы скурай бацька, усьміхаючыся, заўважыў:

— Дзякуй Богу, яшчэ адзін гарбар у нашыя Усьвяты заявіўся.

Пэўне-ж бацькі не здагадваліся, што іхны сын, перамагаючы зусім няспрыяльныя для гэтага ўмовы, станецца навукоўцам. А сын, стаўшыся гэткім, будзе пры кажнай нагодзе зь цяплінёй падчырківаць, што сваю працаздатнасьць ён дастаў у спадчыне ад бацькі, а сваю любасьць да старасьветчыны ад месца свайго народжаньня, ад аднаго з найстарэйшых беларускіх гарадоў, аб якім упяршыню прыгадаў летапісец яшчэ ў сувязі з унукам Рагнеды, полацкім

князем Брачыславам, сынам Ізяслававым, і ў якім жыў пазьней два гады Альгерд.

Сярэднюю асьвету Сапуноў атрымаў у Віцебскай гімназіі, вышэйшую — у Пецярбурскім унівэрсытэце, дзе скончыў гістарычна-філялягічны факультэт. Потым на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў ён выкладае ў Віцебскай гімназіі лацінскую ды грэцкую мовы, а з 1911 г. па 1922 г. чытае лекцыі ў Віцебскім Археолягічным Інстытуце. Ужо ў 1920 г. Сапуноў блізу цалкам згубіў зрок. Тым ня менш найгоршае надвор'е не перашкаджала яму штодня, часам з дапамогай павадыра, а часам, намацваючы перад сабой дарогу кійком, наведваць інстытут. Студэнтам, якія выбягалі яму насустрач і пачыналі дакараць за тое, што ён ня дбае аб сваім здароўі, Сапуноў адказваў словамі Плінія аб грэцкім мастаку Апэлесе: **Nulla dies sine linea.**[1])

І запраўды няма нічога больш характарнага для ўсяго жыцьця Сапунова, чымся гэтая ягоная ўлюбёная лацінская прыказка. І нават сьлепату нажыў ён не з хваробы, або старасьці, але вылучна таму, што ня ведалі ніколі адпачынку ягоныя вочы. Тымчасам, сьляпы прафэсар гаварыў:

— Мае сяброве, адным з тых дасьледных заданьняў, якія мы старыя перахазваем вам маладым, ёсьць адзначыць на гістарычных мапах Альгердаў Шлях. Пазьней гэты шлях зваўся, як вам вядома, Вітавым. Аб ім таксама прыгадвае Сьцяпан Баторы ў сваёй знанай грамаце полацкаму ваяводзе; ягоны схэматычны накід зрабіў і пакінуў нашчадкам годны пашаны Райнгольд Гайдэнштайн. Нам пашэньціла трапіць на сьлед Альгердавага Шляху. Мы пазналі яго па цяпер зарослых, але ўсё-ж дагэтуль прыкметных просеках у лясох і пушчах, па адхонных спусках да яроў і ручаёў, па перакопах праз узгоркі й капцы, па рэштках паляў і гацяў на рэках і балотах, па зламаных колах і конскіх касьцякох, па вугальлю ад спаленых вёскаў і жаўнерскіх вогнішчаў, па знойдзеных абапал яго шышакох і палашох. Мы ўстанавілі, што гэты шлях, пачынаючыся ад Полацку, ідзе праз задзьвінскія лясы, паўз мызы Рудні, праз раку Вушач, праз маёнтак Бязьдзедзічы, паўз Мядзьвежае возера проста на Чортаў мост, праз Бахонкавую гару й далей у кірунку да мястэчка Глыбокага. Тымчасам для нас гэта гіпатэза, але няма ніякага сумніву, што ад Глыбокага ён ідзе на Вільню. І калі нам пашэньціла пачаць, хоць не ўдалося скончыць гэтае дасьледваньне, дык вы мусіце нарэшце знайсьці ўвесь Альгердаў Шлях.

[1]) Ніводнага дня бяз рыскі.



Калі сумленнае выкананьне настаўніцкіх абавязкаў забясьпечвала Сапунова хлебам штодзённым, дык навуковая праца ў вольныя ад гэтых абавязкаў гадзіны была мэтай усяго жыцьця. Створанае адным ім можа пераважае сабой спадчыну таго ці іншага навуковага таварыства ў поўным ягоным складзе. Прынамсі ён зьяўляецца аўтарам і складальнікам 72 выданьняў, прысьвечаных гісторыі Беларусі. Усе гэтыя выданьні дзеляцца на тры групы:

1. Зборнікі гістарычных актаў і дакумантаў.
2. Навуковыя працы на падставе гэтых зборнікаў.
3. Артыкулы й нарысы, разьлічаныя на шырокія колы чытачоў.

У першай групе, найбольш капітальнай, — шмат-томная „Витебская Старина", што патрабавала цімала год упорыстае працы ў архівах і кнігасховах. Пераважная бальшыня зьмешчаных у ёй гістарычных дакумантаў дагэтуль заставалася невядомаю шырокім чытацкім колам і нават значнай колькасьці навукоўцаў. Стагодзьдзі яны ляжалі сукрыта, пахаваныя пад курганамі пазьнейшых дакумантаў. Між тым толькі празь іх можна было даведацца, як гаворыцца ў высокамастацкіх радкох Максіма Багдановіча:

„Што тут чынілася у даўныя часы,
Што думалі, аб чым спрачаліся тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Пазнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу".

Навуковы дасьледнік ведае, як прыемна нарэшце знайсьці гэткі далёкі па сваёй даце прывілей або кроніку ці акт, якія дададуць яшчэ адну непаўторную старонку ў гісторыю краіны. Знойдзены й апублікаваны дакумант назаўсёды застанецца дакумантам. Часам навуковец на падставе яго зробіць ня зусім аб'ектыўны выснаў. Яшчэ часьцей паспрабуе пабудаваць на ім хісткую ідэолягічную плятформу палітык. Аднак, гістарычная праўда, адбітая ў гістарычным дакуманце,

можа не адразу, але нямінуча давядзе нясумленных навукоўцаў і палітыкаў да банкроцтва. Гэтае вылучнае значаньне гістарычных дакумантаў трапна падчырківае Н. Бантыш у сваім артыкуле „Старая Вільня", зазначаючы:

„Настаўніцкі пэрсанал Віленскага інстытуту ўваходзіў у „Комиссию по разбору древних актов". Выхаванцы ягоныя таксама прымалі ўдзел у абследваньні й аглядах гістарычных дакумантаў. Гэтак, ім, беларусам, зусім ясным рабілася законнае гістарычнае права Беларусі і на Смаленск, і на Вяліж, і на Невель, і на Сураж і на Аўгустоў, ня лічачы чатырох беларускіх губэрняў... Яны бачылі, што Францішак Скарына — першы друкар беларускі й славянскі — пачаў друкарскую справу ў Вільні й Полацку... І вось акт па акце, грамата па грамаце, студэнты бачылі, што беларуская мова была абавязковай у старой „літоўскай" дзяржаве, у тым ліку для віленскага ваяводзтва... Навуковыя досьледы Сапунова й Карскага памацняюць вядомасьці існаваньня беларускае самастойнае культуры й вымагаюць вывучэньня помнікаў мінулага". [2])

Аднак, перш чымся гістарычны дакумант, які датычыць патрэбнага часу, або тэмы, патрапіць у рукі навукоўца, той мусіць у гэтых пошуках перагледзіць безьліч іншых дакумантаў. Ён мусіць добра ведаць стара-беларускую й стара-польскую мовы з усімі іхнымі апрычонасьцямі, свомымі толькі таму ці іншаму стагодзьдзю. Ён можа па русізмах і палянізмах вызначыць пачатак ціску з боку таго ці іншага суседа на Беларусь. Ён, узяўшы ў рукі пажоўклую ад часу паперу із зьбялелым атрамантам мусіць па гатунку паперы й атраманту праверыць, або знайсьці дату, калі яна не адзначаная на дакуманце. Ён вызначае таксама час па стылю пісьма, а ў дадатак мусіць без цяжкасьцяў разьбірацца ў асабістых старадаўных людзкіх характарох пісаньня. Якраз гаму Сапуноў пад старасьць і зьнявідзеў. А тады да „Витебское Старины", да Сызыфовае працы, ён із свомаю яму сьціплясьцю дадаў на стара-славянскай мове кароткую, але яскравую прадмову:

„Отцы и братья! Оже ся где буду описал, або переписал, або недописал: чтите, исправливая Бога деля, а не клените, занеже книги ветшаны, а ум молод, недошел".

У другой групе працаў Сапунова першае месца займае ёмкі том „Западная Двина" (Віцебск. 1893 г.). Сам аўтар кваліфікаваў гэтую сваю працу, як гістарычна-геаграфічную, а ў запраўднасьці яна нішто іншае, як энцыкляпэдыя Дзьвіны. Можа ўзьнікнуць пытаньне — ці заслугоўвае наагул Дзьвіна энцыкляпэдыі? Ці ня будзе гэткая тэма адбіткам павятовага патрыятызму? Пасьля гэтага варта прыгадаць фаліянты, прысьвечаныя рознымі народамі Дунаю й Райну, Волзе й Місісіпі, каб пераканацца, што рака, на якой стаіць Полацак — калыска беларускае дзяржаўнасьці, аб якой адзін з зацятых ворагаў гэтае дзяржаўнасьці — Іван Грозны — заўважыў: „У Дзьвіны дно залатое, а берагі серабраныя" — заслугоўвае найвялікшае ўвагі з боку беларускіх навукоўцаў. Сапуноў падрабязна затрымаўся ня толькі на гісторыі самае Дзьвіны й у гэолягічным сэнсе і як старадаўнага воднага шляху, але й на гісторыі ўсіх гарадоў і мястэчкаў, што знаходзяцца ў ейным басэйне. Ён ня толькі грунтоўна асьветліў рэчышча самае Дзьвіны ад Вокаўскага Лесу да Балтыцкага мора з усімі ейнымі шматлікімі парогамі, абтокамі і нават паасобнымі валунамі, зь ейным вялікім спадам і хуткім бегам, але апісаў усе ейныя вялікія й малыя прытокі, ня мінаючы ручаёў. Шмат старонак займаюць такія разьдзелы, як флёра й фаўна Дзьвіны, гісторыя вадаплаўства на ёй, адлюстраваньне ракі ў фалькльёры й мастацкай літаратуры розных народаў, а ў першую чаргу тых, што здаўна насяляюць Надзьвіньне. Наагул у гэтай багата ілюстраванай, із шматлікімі мапамі, кнізе можна знайсьці ўсё аб Заходняй Дзьвіне, пачынаючы ад заўвагі Гэрадота аб ёй у сваёй „Мэльпамэне" й канчаючы аналізам ейнае вады. У прадмове да „Западной Двины" Сапуноў выказвае ўдзячнасьць Мікалаю II, які даў на выданьне 500 рублёў, але калі ўлічыць, што сам аўтар выдаткаваў на ейнае выданьне 6000 рублёў з собскага цяжкога настаўніцкага заробку, дык „царская ласка" набывае зусім іншы калярыт. [3])

---

[2]) Цьвікевіч А. — „Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. в. Менск. 1929 г. Стар. 272.

[3]) Стукаліч В. — „А. П. Сапунов". Віцебск. 1905 г.

Цяжка нават пералічыць усе тыя выданьні, якія ўваходзяць у склад трэцяе групы працаў Сапунова. Звычайна, яны друкаваліся спачатку на старонках тагачаснае газэты „Витебские Губернские Ведомости", або ў „Памятных книгах Витебской губернии", а потым выходзілі, як адбітак, асобна. Паміж гэтымі выданьнямі варта адзначыць такія, як — „Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии" Віцебск. 1903 г. „Белоруссия и белоруссы". Віцебск. 1910 г. „Двинские или Борисовы камни". Віцебск. 1897 г. „Полоцкий Софийский собор". Віцебск. 1888 г. „Чей прах покоится в нише Софийского собора?" Віцебск. 1889 г. „Губернаторский дворец в г. Витебске". Віцебск. 1901 г., „Местечко Усвят" Віцебск. 1902 г. і г. д. Гэтыя кнігі адразу знаходзілі свайго чытача, але не ў самым губэрнскім чыноўніцкім Віцебску, а галоўна паміж вясковых настаўнікаў царкоўна-парафіяльных і земскіх школаў. Калі калескія рэгістратары, ня прыгадваючы ўжо больш буйных урадаўцаў — пераважна расейцаў — адмыслова перакіненых у Віцебск з Арлоўскае і Калускае губэрніяў, набывалі нумар „Витебских Губернских Ведомостей", каб пазнаёміцца з урадавымі паведамленьнямі аб чарговых сьвяточных узнагародах, дык вясковыя настаўнікі ўлучалі ў свой аж занадта сьціплы бюджэт сталую выпіску на губэрнскую газэту, каб чытаць і перачытваць артыкулы й нарысы Сапунова ды іншых краяведаў. Зь імі Сапуноў меў сталае сяброўскае ліставаньне.

Усе шматлікія навуковыя працы Сапунова сустрэлі прыхільны водгук сярод тагачасных навукоўцаў. „Витебской Старине" прысьвяцілі вялікія цёплыя рэцэнзыі гэткія часапісы, як — „Русская Старина" (Сакавік 1884 г., Люты 1889 г.), „Правительственный Вестник" (№ 225. 1896 г.), „Исторический Вестник" (Сакавік 1897 г.) і г. д. „Западную Двину" сустрэлі із захапленьнем ня толькі вышэйадзначаныя выданьні, але й пэрыядычная прэса Нямеччыны, Ангельшчыны, Францыі, Швэцыі, Даніі і г. д. Яшчэ да рэвалюцыі Сапуноў быў абраны сябрам каля дваццацёх навуковых таварыстваў, паміж якімі варта прыгадаць: Брытанскае Каралеўскае Гістарычнае Таварыства, Таварыства Гісторыі і Старажытнасьцяў Расейскіх пры Маскоўскім унівэрсітэце, Маскоўскае Археалёгічнае Таварыства, Гістарычнае Таварыства пры Пецярбурскім Унівэрсітэце і г. д.



Пасьля рэвалюцыі Сапуноў быў абраны сябрам-карэспандэнтам Акадэміі Навук. Але — „Няма прарока на сваёй бацькаўшчыне", або — „Што добрае можа прыйсьці з Назарэту?"

Віцебск у часы, калі Сапуноў пачаў у ім сваю навуковую працу, зусім не надаваўся на тое, каб спрыяць гэтай працы. Характарна, што ў 1881 г. віцебскае мясцовае начальства прадало зь Віцебскіх архіваў у Рыгу, як макулятуру 3000 пудоў старых дакумантаў 16-17 в. в. і Архіў Полацкага Намесьніцтва да 1772 г. Пуд прадаваўся па 1 р. 18 к. і грошы былі скарыстаныя для ўзнагароды чыноўнікаў[4]). Гэты барбарскі ўчынак цалкам адпавядаў жыцьцю чыноўніцкае інтэлігенцыі губэрнскага гораду. Прынамсі безнадзейна правінцыяльны „Виленский Вестник" з прычыны адкрыцьця ў Батанічным садзе кафэ-шантану патэтычна зазначае: „У нас пачынаюць прывівацца свае адаліскі, свае альтымбанкі, свае шансанэтныя сьпявачкі. Дай Бог (! Ю. В.), каб гэтая эўрапейская навіна саслужыла грамадзянству эстэтычную службу"[5]). І Даўнар-Запольскі, характарызуючы Сапунова адзначае: „Правінцыяльны тагачасны горад суліў шмат спакусаў маладому вучонаму й нялёгка была ўстоіць, каб не загразнуць у правінцыяльнай твані. У той час чыноўніку нашага краю, які займаўся навукай ды яшчэ служыў па міністэрству асьветы, пагражала панiжэньне па службе, або нават звальненьне. Працаваць пры гэтых умовах ужо было заслугай, і немалой"[6]). Аб тым-жа сьветчыць Стукаліч: „Першапачаткавыя імкненьні Сапунова абудзіць цікавасьць мясцовае інтэлігенцыі да мінулага й сучаснага становішча Беларусі дрэнна ўспрыймаліся мясцовым грамадзтвам; ягоную „Витебскую Старину" чыталі вельмі мала, а начальства глядзела на яе скоса, ніяк не згаджаючыся, каб падобнага роду праца пісалася без якіхколечы старонніх „внушений" і тэндэнцыяў"[6]).

---

[4]) „Как у нас охраняются исторические документы" — „Исторический Вестник". 1885 г., т. XIX, стар. 461-462.

[5]) „Виленский Вестник" № 5, перадавіца. 1879 г.

[6]) Стукаліч В. — „А. П. Сапунов" Віцебск. 1905 г.

Віцебскія благія ўмовы зусім ня былі спэцыфічна віцебскімі, або адмыслова на Сапунова пашыранымі. Тое-ж дасьветчылі у тым-жа Віцебску Нікіфароўскі, Даўгяла, Стукаліч і інш., у Магілеве — Раманаў, у Смаленску — Дабравольскі і г. д. Паводля Шлюбскага: „Раманаў ніколі не знаходзіў у грамадзтве, а тым больш у ўладаў патрэбнага прызнаньня й патрэбнага падтрыманьня"[7]). Зразумела, чаму Раманаў, якога ня здужала ніякая „правінцыяльная твань", гэтак цёпла й шчыра вітаў у 1913 г. Беларускі Навукова-Літаратурны Гурток студэнтаў Пецярбурскага ўнівэрсытэту, словамі: „Дабрыдзень, племя маладое, незнаёмае, — але роднае! З прыемным пачуцьцём атрымаў я прывітаньне вашае, браценьнікі. Узаемна жадаю ўсім вам, як хутчэйшага выхаду на шлях дзеячоў. Жніва, бо шмат ёсьць!"[8]). Нікіфароўскі, аўтар дзесяткоў навуковых працаў па беларускай этнаграфіі, вялікую няпрыемнасьць меў у сувязі з тым, што ў дзень нараджэньня Мікалая II прыйшоў, як настаўнік Віцебскае мужчынскае гімназыі ў катэдральны сабор на ўрачысты й абавязковы для ўсіх службоўцаў малебен у старым латаным гарнітуры. Справа дайшла да Куратара Віленскае Навучальнае Акругі, пакуль нарэшце не высьвятлілася, што „титулярный советник Никифоровский" зусім не хацеў гэтым дэманстрацыйна зьняважыць цара, але проста ня меў іншага гарнітуру — бяз малага ўвесь свой заробак ён прызначаў для выданьня сваіх кнігаў. Тое-ж самае із сваім заробкам практыкаваў і Сапуноў. Такая практыка спрычынілася да вельмі нешчасьлівага сямейнага жыцьця. Прынамсі, калі пад старасьць сьляпы Сапуноў вобмацкам ішоў адзін па вуліцах, дык ён проста ня меў сваякоў, якія-б рупіліся аб ім, а сяброў і знаёмых ён сьведама ня турбаваў.

У нарысе, прысьвечаным Сапунову нельга сьведама, або нясьведама абмінуць тую гістарычна-палітычную плынь, да якой ён належыў. Прайсьці паўз гэтае плыні — значыцца зусім не зразумець Сапунова, які хаця й правёў большую частку свайго жыцьця ў архівах, кнігасховах і за габінэтным сталом, але адначасна прымаў дзейны ўдзел у грамадзкім і палітычным жыцьці. Назва гэтае плыні, а менавіта — „Западно-руссизм" — няпрыемна ўспрыймаецца нашым вухам. Аднак, апрача фігуральных у дадзеным выпадку вушэй, што з прыемнасьцю, або з няпрыемнасьцю ўспрыймаюць усе вакольныя гукі, ёсьць розум, здатны да аб'ектыўнага аналізу. Менавіта таму аўтар гэтага нарысу не бярэ на сябе ролі пракурора, або адваката ў дачыненьні да гістарычна-палітычнае плыні, якая ў дадатак сталася ўжо здабыткам гісторыі. Ён абмяжоўваецца роляй сьледчага, паклікаючыся на шматлікіх сьветкаў і маючы права на свой высноў. І разам з тым ён спадзяецца, што сам высокашаноўны чытач зробіць на падставе сабранага сьледчым матар'ялу належны справядліваму судзьдзі прысуд.

„Западно-руссизм" ніколі, а тым больш у часы Сапунова, ня быў суцэльнай аднамыснай плыняй. Ён выразна дзяліўся на два крылы. Правае крыло прадстаўлялі Саланевіч, Кавалюк, Кулакоўскі, Бажэлка, Пшчолка, Вруцэвіч, Каранявіч і інш; у склад левага крыла можна залучыць Сапунова, Раманава, Нікіфароўскага, Даўнар-Запольскага, П. Баброўскага, Стукаліча ды інш. Калі правае крыло складалася з палітыканаў, якія з падтрымкай царскага ўраду выдавалі газэты й часапісы „Крестьянин", „Окраины России", „Северо-Западная Жизнь" і г. д., дык левае крыло складалася з навукоўцаў, якія друкаваліся амаль вылучна за свой кошт. Паміж гэтымі двума крыламі ўвесь час ішло змаганьне. „Западно-руссизм" правых зусім не супадаў з „западно-руссизмом" левых.

„Ня зьелі нас беларусаў раней, не зьядуць і цяпер!"[9]) — гэтыя словы, што ў той час гучэлі, як лёзунг, належаць Нікіфароўскаму й адрысаваныя Кавалюку ў сувязі із зьдзекамі апошняга зь беларускае мовы. Раманаў у 1908 г. друкуе адчынены ліст А. Пшчолку, у якім зазначае: „У сваіх творах вы імкніцёся прышчапіць чужынцам пагарду да свайго-ж народу, абліваеце памыямі сваю-ж бацькаўшчыну, якую замучылі злыя ворагі".[10]) Шмат пазьней паўтарылі тое-ж самае ў дачыненьні да Пшчолкі Лявон Гмырак і Максім Га-

[7]) Шлюбскі А. — Этнографічная дзейнасьць Е. Р. Раманава. Гісторыка-этнаграфічныя нататкі. Менск. 1928 г. Стар. 363.

[8]) Ibid. Стар. 341.

[9]) Стукаліч В. — „Н. Я. Никифоровский". „Записки Сев.-зап. отдела Географ. Общества". 1900 г., кн. I, стар. 144.

[10]) Цьвікевіч А. — „Западно-руссизм". Менск. Стар. 321.

рэцкі. Можа яшчэ больш характарны для Раманава „Плач Белорусской земли", які спачатку „Витебские Губернские Ведомости" адмовіліся друкаваць на сваіх шпальтах, угледзіўшы ў ім сэпаратыстныя тэндэнцыі, і аўтар выдаў гэты твор асобным выданьнем ананімна.[11]) Прадстаўнік правага крыла Бажэлка на старонках „Крестьянина" зьмяшчае артыкул, накіраваны адначасна супраць „Нашай Нівы" й левага крыла, якому непасярэдна адрысаваны закід: „Здрайцы й прадаўцы свайго народу зь нібы вучоных нам добра вядомыя!"[12]) Гэтую палеміку Сапуноў нібы не заўважаў. У ягоным габінэце паміж іншымі нартрэтамі не выпадкова вісеў і партрэт Адама Кіркора, якога яшчэ ў 70-х гадох усяляк зьневажалі духовыя бацькі правага крыла „западно-руссизма" К. Гаворскі і М. Каяловіч — тыя самыя, што паводля іхных-жа вернападанных словаў у кажную мясцовую справу „вбивали русский гвоздь".[13]) Аднак, памінаючы палеміку з правым крылом, Сапуноў пайшоў шмат далей за сваіх сябраў па левым крыле.

26 кастрычніка 1910 г., чытаючы ў Віцебскай Архіўнай Камісіі рэфэрат на тэму „Белоруссия и белоруссы", які знайшоў водгук далёка паза сьценамі таго пакою, дзе ён чытаўся, Сапуноў сказаў: „Я заклікаю Беларусь да самавызначэньня, да нацыянальнага ўсьведамленьня, да адроджанае будучыні, якая будзе ў руках самых беларусаў".[14]) Ён скончыў гэты свой рэфэрат прыгожым патрыятычным вершам Янкі Нясьлухоўскага. Сапунову пашэньціла крануць прыгаданае ў рэфэраце пытаньне з найбольшае трыбуны Расейскае імпэрыі — у 3-й Дзяржаўнай Думе. Пасьля разгону царызмам 2-е Думы і закону аб зьмене выбараў у 3-ю Думу ўяе абіраліся дэпутаты паводля прынцыпу — „Чаго жадаеце-с?". Таму з 9 дэпутатаў Віцебскае губэрні восем за ўвесь час існаваньня 3-яе Думы не сказалі ніводнага слова, але за тое зусім накш паводзіўся дзевяты — Сапуноў, які трапіў у Думу, дзякуючы падтрымцы вясковых настаўнікаў. З тае самае трыбуны, зь якое Сталыпін 27 красавіка 1911 г. крычэў: „Заходні край ёсьць і будзе краем рускім назаўсёды, навекі!"[15]), Сапуноў сказаў: „Усе, нават самыя нязначныя народнасьці, імкнуцца цяпер да самавызначэньня; за імі ўсе прызнаюць права на гэта. Толькі адна народнасьць, народнасьць беларуская, ня сьмее й думаць аб гэтым".[16]) З тае-ж самае трыбуны ў сувязі з заявай дэпутата Дзяржаўнага Савета Корвін-Мілеўскага, што палякі здаўна й дагэтуль маюць права на рэпрэзантацыю жыхароў беларускіх губэрніяў, Сапуноў у сваёй адказнай прамове заўважыў: „залічаць да палякоў беларусаў-каталікоў толькі таму, што яны каталікі, — звычайнае этнаграфічнае грабежніцтва".[17]) Дарэчы, варта зазначыць, што гутарка тут якраз аб тым „рэпрэзантанце" беларусаў Корвін-Мілеўскім, які калісь у вузейшым коле шчыра выказаўся: „Няшчасьце маё, што мне давялося прадстаўляць у Дзяржаўным Савеце варты пагарды беларускі дэмас"[18]).

Часам здавалася, што Сапунову, Раманаву, Нікіфароўскаму ды іншым досыць было зрабіць толькі адзін крок, каб пакінуць левае крыло „Западно-руссизма" й улучыцца ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух, але зрабіць гэты адзін крок яны былі ня ў стане. Трапна зазначае аб іх А. Цьвікевіч: „Любячы этнаграфічную Беларусь, вывучаючы беларускі фальклёр, яны не маглі ня цешыцца з ўзьнікненьня ў краі беларускай літаратуры, не маглі не адчуваць ейнае прыгажосьці, сьвежасьці й блізкасьці да народу. Яны не маглі ісьці сьледам за панамі Бажэлкамі, Кавалюкамі й Саланевічамі ў ганьбаваньні беларускага нацыянальнага слова й „Нашае Нівы"[19]). Зусім правільна асьвятляе іхную ролю П. Крэчэўскі: „Пачэсныя імёны мясцовых гісторыкаў і этнографаў, што будзілі думку аб Беларусі — Сапунова, Стукаліча, Нікіфароўскага, Даў-

[11]) Шлюбскі А. Этнаграфічная дзейнасьць Е. Р. Раманава. Менск. 1928 г. Стар. 342.

[12]) „Нашай Ниве" — „Крестьянин". Менск. 1909 г. № 29.

[13]) Цьвікевіч А. Ibid. Стар. 235.

[14]) Сапуноў А. — „Белоруссия и белоруссы". Віцебск. 1910 г.

[15]) Цьвікевіч А. Ibid. Стар. 303.

[16]) Сапуноў А. — „Речи в Государственной Думе 3-го созыва" СПБ. 1912 г. Стар. 37.

[17]) Цьвікевіч Ibid. Стар. 177.

[18]) Навіна Антон — Да пытаньня аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве. „Маладая Беларусь". Сэрыя 1, зшытак 2. СПБ. 1912 г. Стар. 13.

[19]) Цьвікевіч А. — „Западно-руссизм", Менск, 1929 г. Стар. 330.

гялы, Раманава ды іншых яскрава гавораць аб тым захапленьні, якое выклікала беларуская нацыя, як старэйшая й найбольш чыстая галіна славянства ў навуковых колах”[20]). Добрым словам успамінае аб іх і М. Гарэцкі: „Зьбіраючы й парадкуючы матар’ял, надта важны для нармальнага разьвіцьця пісанага слова, яны сьведама ці нясьведама зрабілі нязрушным той грунт, на каторым расла навейшая беларуская літаратура”[21]). Паводля догмаў „марксызму-ленінізму” паставіўся да іх „дыялектычна-матэрыялістычны” акадэмік В. Шчарбакоў, зазначыўшы ў сваім нязграбным нават з боку формы абвінавачаньні: „Нездарма менавіта яны стварылі раскрытую слаўным НКВД змову супроць савецкай улады, зьяўляючыся агентамі, шпіёнамі й правакатарамі польскіх, нямецкіх ды іншых краін імпэрыялістаў, фашыстаў, рука аб руку працуючы з нацыянал-фашыстымі Заходняй Беларусі”[22]). Далей канкрэтызуючы гэтае „яны”, ён складае ўсеабдымны, агульны для жывых і памерлых сьпіс, у які ўваходзяць — Сапуноў, Любаўскі, Лаппа, Карскі, Ластоўскі, Цьвікевіч, Ігнатоўскі, Турук, Даўнар-Запольскі, Пічэта ды інш. Між іншым, В. Шчарбакоў пэўне-ж не здагадваўся, што праз некаторы час „слаўнае НКВД” далучыць да гэтага сьпісу й яго. І можа лепш за ўсіх схарактарызаваў дзейнасьць сваю й сваіх сябраў сам Сапуноў у вышэй прыгаданай лекцыі, прачытанай ім студэнтам Віцебскага Археолягічнага інстытуту. Ці ён думаў тады, што ягоныя словы аб Альгердавым Шляху набываюць сымбалічнае значаньне для ўсяго левага крыла „западно-руссизма”? Яны, старыя, перамагаючы розныя перашкоды, дайшлі ў пошуках Альгердавага Шляху — Шляху Вольнае й Незалежнае Беларусі да... Глыбокага. Яны, старыя, ня сумняваліся ў тым, што гэты Шлях ідзе далей да Вільні — да старадаўняе слаўнае сталіцы Вялікае Літвы-Беларусі. Аднак, яны ўжо ня ў стане былі знайсьці гэты Шлях і пераказалі ягоныя пошукі беларускай патрыятычнай моладзі.

У савецкія часы Сапуноў больш нічога не стварыў. Ваенны камунізм і археолёгія не супадалі. І хоць Акадэмія Навук, надала Сапунову годнасьць сябры-карэспандэнта, але гэта да нічога не абавязвала тутэйшых камуністых. У віцебскай газэце „Зара Запада” пачынаюць яго абвінавачваць у тым, што некаторыя акты з „Витебской Старины” — зброя ў руках антысэмітаў, пасьля прыгадваюць 500 рублёў, ахвяраваных царам на „Западную Двину”, нарэшце, обураюцца з тае прычыны, што ў 3-й Думе ён не салідарызаваўся з левымі партыямі, і гэтак без канца. Сапуноў прабаваў пратэставаць, але ягоныя лісты рэдакцыя не зьмяшчала. Нарэшце, Віцебскі Гарсавет пазбавіў яго акадэмічнае харчовае нормы, што ў тыя галодныя гады адчувалася асабліва балюча. Сапуноў больш ня скардзіўся. Усё бліжэй і бліжэй набліжаліся два канцы — турма й сьмерць. Аднак Сапуноў застаецца Сапуновым. У ягоных зьмястоўных лекцыях не адбіваецца савецкая рэчаіснасьць, але затое з ейнае прычыны сам прафэсар хістаецца ад сталага недаяданьня. Студэнты няўпрыцям для сьляпога кладуць яму ў часе лекцыі ў кішэні ягонага старога пальта кавалак хлеба, колькі бульбінаў — больш у іх нічога няма. Тыя-ж студэнты на просьбу Сапунова пасыпаюць у ягоным садку дарожкі скуранымі абрэзкамі. Пах гэтых абрэзкаў нагадвае іхнаму прафэсару, што канчае сваё жыцьцё, пачатак гэтага жыцьця. І вось 2 кастрычніка 1924 г. прыходзіць сьмерць. Яшчэ ў лютым 1919 г. Чака расстраляла Стукаліча. У студзені 1921 г. памірае ў Стаўропалі галоднай сьмерцяй Раманаў. Той-жа голад прысьпешыў сьмерць Сапунова. Савецкія газэты адгукнуліся на ягоную сьмерць кароткімі зацемкамі ў колькі радкоў і ні водная зь іх не прысьвяціла яму нэкралёгу. Яго пахавалі на Трайчонкавых могілках ля дзьвярэй ахутанае лягендамі царкоўкі, ведамае ў народзе пад паэтычным назовам „Белае Тройцы”. Несьлі труну й ішлі за ёй толькі ягоныя студэнты — будучыя нацдэмы, якім ён — былы „западно-русс” пераказаў у спадчыне пошукі Альгердавага Шляху.

5-7 верасьня 1952 г. ЗША.

---

[20]) Крэчэўскі П. — Беларусь у мінулым і сучасным. „Замежная Беларусь”. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Кніжка першая. Прага. 1926 г. Стар. 49.

[21]) Гарэцкі Максім — Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня. 1924 г. Стар. 131.

[22]) Шчарбакоў В., акад., др. — Нарыс гісторыі Беларусі. Частка І. Інстытут гісторыі імя М. Н. Пакроўскага пры Беларускай Акадэміі Навук. Менск. 1934 г. Стар. 14.

**Праф. Н. ПАЛОНСКАЯ-ВАСІЛЕНКА**

# *ДАУНАР-ЗАПОЛЬСКІ*

### Зацемкі да біяграфіі *)

Сярод навуковых і грамадзкіх дзеячоў Беларусі ды Украіны першае чверці XX стагодзьдзя адно з выдатнейшых месцаў належыцца Мітрафану Даўнар-Запольскаму. Ня гледзячы на тое, што ён пакінуў вялікі сьлед у навуцы й культуры, адно апошнім часам у прэсе пачалі зьяўляцца прысьвечаныя яму артыкулы — першы праф. Б. Крупніцкага у „Украіне"[1]), другі — А. Саковіч у „Ведзе"[2]). Артыкул Крупніцкага толькі пабежна кранаецца кароткага працягу часу, калі аўтар быў студэнтам Кіяўскага Ўнівэрсытэту. Артыкул А. Саковіч — большы й дакладнейшы — прысьвечаны пераважна пары дзейнасьці праф. Даўнар-Запольскага ў Беларусі. Таму я хачу спрабаваць дакінуць гэтта некаторыя зьвесткі зь біяграфіі М. Даўнар-Запольскага.

Мітрафан Даўнар-Запольскі нарадзіўся ў 1867 годзе ў м. Рэчыцы, Мазырскага павету, у сям'і дробнага ўрадаўца. Малым дзіцём ён пераехаў з бацькамі й рэштаю сям'і ў Мозыр, дзе бацька ягоны неўзабаве памёр. Маці засталася зь пяцярма дзецьмі (трыма дочкамі й двума сынамі) ў вялікай нястачы. Калі старэйшая сястра М. Даўнар-Запольскага — Аляксандра — выйшла замуж і пераехала з мужам у Баранавічы, яна ўзяла малодшага брата Мітрафана да сябе. Шчыра кажучы, ён з маленства пазбаўлены быў якога-колечы кіраўніцтва й рана пачаў зарабляць на пражыцьцё лекцыямі.

Даўнар-Запольскі вучыўся самперш у гарадзкой школе, а пасьля ў прагімназіі. Будучы яшчэ вельмі маладым, ён пачаў захапляцца этнаграфіяй Беларусі, запісваў казкі, песьні. А. Саковіч падае дату — 1887 г. — калі беларуская моладзь, з Даўнар-Запольскім на чале, згуртавалася была вакол газэты „Минский Листок" і пачала зьмяшчаць у газэце свае артыкулы з гісторыі ды этнаграфіі Беларусі. У 1888 г. М. Даўнар-Запольскі выдае „Северо-Западный календарь" з артыкуламі з гісторыі Беларусі. Частка гэтых артыкулаў была перавыданая аўтарам у 1909 г. у асобным зборніку.[3])

Навуковыя зацікаўленьні, што захапляюць маладога дасьледніка, цесна вяжуцца з абуджэньнем у ім нацыянальнае сьведамасьці, жаданьнем культурнага й нацыянальнага адраджэньня Беларускага народу. Маючы 17 год, ён ужо вандруе па беларускіх вёсках, запісвае народныя песьні й казкі ды вывучае жыцьцё й палажэньне свайго роднага народу. Вандруючы гэтак, ён бачыў і ўсе злыбяды тагачаснага беларускага жыцьця й гэта штурхала яго насустрач рэвалюцыйным ідэям. Не магу дакладна сказаць, да якое арганізацыі належыў Даўнар-Запольскі, але думаю, што да аднае з тых, што набліжаліся да ідэяў „Народнае Волі". Прыналежнасьць ягоная была выяўленая й ён быў пазбаўлены магчымасьці скончыць сярэднюю школу. Шмат пазьней, калі меў ужо больш 20 год, ён атрымаў, аднак, дазвол скласьці экзамен „сьпеласьці" ў кіяўскай гімназіі, а тады — запісацца на ўнівэрсытэт Сьв. Валадзімера. У гэтую пару яму было ўжо 22 год, тады, калі іншыя канчалі ўнівэрсытэцкія студыі, але ён пачынаў унівэрсытэцкую навуку, як дасьпелы навуковы дасьледнік, што меў ці мала друкаваных працаў і навуковае імя.

Гістарычна-філялягічны факультэт унівэрсытэту Сьв. Валадзімера ў 1880-х гадох перажываў пару свайго красаваньня. Славаю ягонаю былі прафэсары І. В. Лучыцкі (навейшая гісторыя Зах. Эўропы), І. І. Фартынскі (сярэднявечча), М. М. Бубноў (чытаў самперш старадаўную гісторыю), М. П. Дашкевіч (гісторыя літаратуры) і, найвыдатнейшы з усіх, — В. Б. Антановіч. Даўнар-Запольскі адразу быў прыняты ў ягоны сэмінар і ўлучыўся ў кола выдатных вучняў Антановіча. Лепшыя вучні Антановіча атрымлівалі ад яго заданьні апрацаваць гісторыю нейкага раёну Ўкраіны X-XIV ст. (П. Галу-

*) Зьмяшчаем тут у перакладзе з украінскай мовы прысланыя для ЗАПІСАЎ цікавыя ведамкі зь біяграфіі нашага выдатнага гісторыка Мітрафана Даўнар-Запольскага пяра прафэсара Кіяўскага Ўнівэрсытэту Н. Палонскай-Васіленка, якая была вучаніцаю Даўнар-Запольскага й доўгія гады блізкою ягонаю навуковаю супрацоўніцаю.

[1]) Б. Крупніцкі: „З студентських спогадів історика". Київ. Україна, н. 6, Парыж, 1951.

[2]) А. Саковіч: Прафэсар Даўнар-Запольскі. „Веда" н. 7, 1952.

[3]) Исследования и статьи, Киев, 1908, т. 1.

боўскі ды Д. Багалій — гісторыю Северскай зямлі, П. Іваноў ды А. Андрыяшэў — Валынскай, М. Грушэўскі — Кіяўскай і г. д.). Даўнар-Запольскі падаў „Очерк по истории кривичской и дреговичской земель до конца XII ст." За гэтую працу ён атрымаў залаты мэдаль.

Скончыўшы ўнівэрсытэт, Даўнар-Запольскі застаўся пры ім дзеля падрыхтоўкі да прафэсуры й неўзабаве быў высланы ўнівэрсытэтам у Маскву, каб, працуючы ў архівах, мець магчымасьць падрыхтавацца да магістэрскай ды дакторскай дысэртацыяў.

Адначасна, ён ня кідаў і беларускай этнаграфіі, зьмяшчаючы шэраг каштоўных працаў у „Этнографическом Обозрений" за 1890-1899 гады. Ён наведваў Беларусь, працаваў у архіве гр. Храптовіча-Буценева.

Гады, пражытыя Даўнар-Запольскім у Маскве, былі нязвычайна плодныя з навуковага гледзішча. Ён з захапленьнем працаваў у архівах над пытаньнямі з гісторыі Беларусі пары Літоўскага Гаспадарства. У 1897 г. ён надрукаваў „Документы Московского Архива Министерства Юстиции", т.1 (Дакумэнты Літоўскай Мэтрыкі), „Польско-Литовская Уния на сеймах до 1569 году" (Масква, 1898), „К истории поземельной реформы в Ливонии 1580-1582 г. (Масква, 1899), ды інш. Гэтыя досьледы далі маладому навукоўцу выдатнае месца сярод спэцыялістых гісторыі Літоўскае Русі. У 1898 годзе ён быў выбраны рэдактарам „Трудов", — часапісу, заснаванага зь ягонае-ж ініцыятывы, Археаграфічнай Камісіяй „Императорского Русского Археологического Общества". У 1900 годзе быў надрукаваны I т. ягоных „Акты Литовского Государства". У гэтым-жа часе ён працаваў і над сваёю капітальнаю працаю „Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах", якая была выданая ў Кіяве ў 1901 годзе.

Навуковая праца Даўнар-Запольскага злучалася з пэдагагічнай. Даўнар-Запольскі выкладаў гісторыю ў жаночых гімназіях і здабыў шырокую папулярнасьць, як таленавіты пэдагог. Як дапаможнік для навучаньня гісторыі, пад ягонай рэдакцыяй была надрукаваная „Книга для чтения по русской истории.", т. 1 — Киевская Русь. У гэтай кнізе былі зьмешчаныя працы выдатных вучоных і яна мела вялікую ўдачу.



У 1898 годзе пасьля магістэрскіх іспытаў, Даўнар-Запольскі быў выбраны прыват-дацэнтам Маскоўскага Ўнівэрсытэту. Ягоныя лекцыі карысталіся вялікім зацікаўленьнем слухачоў. У 1902 годзе ён бараніў дысэртацыю на ступень магістра ў Кіяўскім унівэрсытэце Сьв. Валадзімера на тэму „Дзяржаўная гаспадарка Вялікага Княства Літоўскага за Ягелёнаў". Абарона мела вылучную ўдачу, Даўнар-Запольскі быў выбраны прафэсарам і зноўкі пераехаў у Кіяў.

У 1905 годзе ён абараніў дактарскую дысэртацыю „Очерки по организации зап. русского крестиянства в XVI ст."

На працягу ўсяго гэтага часу Даўнар-Запольскі студыяваў, побач з гісторыяй Беларусі, і гісторыю „дэкабрыстых", выкарыстоўваючы тое, што сталіся даступнымі для досьледаў тайныя архівы. Ягоныя лекцыі, якія ён чытаў у Маскоўскім унівэрсытэце аб дэкабрыстых здабылі яму вялікую папулярнасьць. Леў Талстой, які хацеў скончыць свой раман „Декабристы", зьвяртаўся да Даўнар-Запольскага па параду, запрашаў яго да „Яснай Паляны" й Даўнар-Запольскі быў у гэтую пару частым гасьцём у хаце Талстых, у Хамоўніках.

Лекцыі з гісторыі дэкабрыстых прычыніліся да вялізарнае ягонае ўдачы ў Кіяве. Вялікая актавая заля ўнівэрсытэту не магла зьмясьціць усіх, хто жадаў пачуць новыя весткі аб дэкабрыстых, а аўтару была створаная, ці лепш кажучы, адноўленая апінія „неблагонадёжного", рэвалюцыянера, чаго ён ня мог пазбыцца на працягу ўсіх год, пражытых ім у Кіяве, і што, часткава, спрычынілася й да трагічных у ягоным жыцьці падзеяў 1917 году.

Наагул, і студэнты й прафэсары ў Кіяве ставіліся да праф. Даўнар-Запольскага зусім парознаму. У студэнтаў ён меў вялікую папулярнасьць. Ягоныя лекцыі, а асабліва сэмінары, на якіх ён вывучаў пераважна акты юрыдычнага характару — Рускую Праўду, умовы, граматы, Літоўскі Статут ды Маскоўскія Судзебнікі, — надзілі студэнтаў. У 1903 г. Даўнар-Запольскі заснаваў „Гістарычна-Этнаграфічны Гурток" пры ўнівэрсытэце, сябрамі якога былі студэнты й „стыпэндыяты" — так зваліся тыя, што скончылі унівэрсытэт і былі пакіненыя пры ім дзеля падрыхтоўкі да прафэсуры. Былі сябрамі гуртка й дацэнты й нават прафэсары. На чале гуртка стаяў Даўнар-Запольскі, сакратаром быў хтосьці з студэнтаў, выбраны

сябрамі гуртка. У гуртку чыталіся даклады, вяліся ажыўленыя дыскусіі. Працы друкаваліся ў „Университетских Известиях" і што год выходзілі асобным зборнікам. Усяго выйшла 10 кніжак.

Даўнар-Запольскі ўмеў даваць сабе раду з студэнтамі. Ён захоўваў у дачыненьнях ізь імі паставу старэйшага, блізкога сябры, цікавіўся справамі моладзі, дапамагаў студэнтам выходзіць на навуковы шлях, ніколі не шкадаваў часу на кансультацыі, на парады, дазваляў ім карыстаць з свае багатае бібліятэкі, спрыяў самастойнай працы, вырабляў субсыдыі на навуковыя выезды ў архівы Масквы, Харкава, Кацярынаслаўлю, Адэсы, й г. д. Наагул, на гістарычна-філялягічным факультэце Кіяўскага унівэрсытэту, былі два выдатныя прафэсары, — сябры моладзі, якія мелі найбольш вучняў і дапамагалі ім у іхнай навуковай працы — гісторык М. Даўнар-Запольскі й філёляг ды гісторык літаратуры — В. Пэрэтц.

Што суботы да Даўнар-Запольскага ў хату прыходзілі студэнты дзеля шырэйшага абмяркаваньня паасобных навуковых працаў, а таксама дзеля гутаркаў на навуковыя тэмы наагул. Тых, што зраджвалі здольнасьці, ён пакідаў у сябе на вечар, калі да яго зыходзіліся пэдагогі, прафэсары. Гэтак студэнты ўцягваліся ў навуковыя зацікаўленьні, удзельнічалі ў абмяркаваньне навінкаў навукі, літаратуры, у няпрымушаную гутарку пры шклянцы гарбаты.

З вучняў Даўнар-Запольскага шмат хто асягнуў паважныя становішчы. Былі гэта — Г. Максімовіч, прафэсар Ніжынскага й Сымфэропальскага Пэдагагічных Інстытутаў, Д. Дарашэнка, прафэсар шэрагу ўкраінскіх унівэрсытэтаў, прэзыдэнт Украінскае Вольнае Акадэміі Навук, П. Смірноў, Е. Сташэўскі, Мірза-Авакіянц, Палоньская-Васіленка, — усе прафэсары Кіяўскага ўнівэрсытэту, Б. Курц — праф. Камэрцыйнага Інстытуту, В. Базылевіч — праф. Археолягічнага Інстытуту, П. Курынны й В. Крупніцкі — праф. Украінскага Вольнага Унівэрсытэту ў Мюнхэне, О. Оглоблін — праф. Кіяўскага і Украінскага Вольнага унівэрсытэтаў ды шмат іншых. Усе пералічаныя гэтта навукоўцы працавалі ў галіне ўкраінскае гісторыі. З вывучэньнем гісторыі Беларусі на Кіяўскім унівэрсытэце справа была горшая, але ўсёткі колькі



студэнтаў над ёю працавалі, між імі — П. Кліменка, які, нажаль, рана загінуў для навукі.

Рэвалюцыя 1905 году спрыяла росту папулярнасьці Даўнар-Запольскага сярод студэнтаў. У 1905 годзе ён з групаю паступовае прафэсуры закладае ў Кіяве Вышэйшыя Жаночыя Курсы. Узначальваў курсы праф. Пэрэтц, сакратаром быў М. Даўнар-Запольскі. Але з прычыны непаразуменьняў з прафэсураю, ён пакінуў курсы ў 1906 годзе. У гэтым годзе ў Кіяве былі адчыненыя Дзяржаўныя Вышэйшыя Жаночыя Курсы, дзе ён атрымаў катэдру. Тады-ж ён заснаваў Вышэйшыя Камэрцыйныя Курсы, якія былі неўзабаве ператвораныя ў Камэрцыйны Інстытут. Гэты Інстытут стаўся найбольш улюбёным творам Даўнар-Запольскага. Пабудаваны ён быў на іншых падставах, чымся унівэрсытэт: перадусім ён быў падпарадкаваны Міністэрству Гандлю й Прамысловасьці, дзе начальства ставілася больш лібэральна да моладзі, чымся Міністэрства Народнае Асьветы, асабліва з часоў міністра Кассо. З другога боку, і нутраная арганізацыя Інстытуту была апрычоная: яна была пабудаваная на грамадзкіх асновах. Інстытутам кіравала Рада з прадстаўнікоў гандлёвых і прамысловых арганізацыяў. Супольна з радаю прафэсароў, Рада гэтая выбірала дырэктара. Аж да 1917 году дырэктарам Інстытуту быў Даўнар-Запольскі. Падтрымка мясцовых гандлёва-прамысловых дзеячоў забясьпечвала Інстытуту матар'яльную й маральную незалежнасьць ад Міністэрства й нязвычайна хуткі расьцьвет. У 1907 годзе Інстытут мясьціўся ў маленькім дамку, у 1917 годзе — ён быў собсьнікам паловы кварталу (Несьцераўская, Бібікаўскі бульвар, Пірагоўская) шматпаверхавых будынкаў з вялізнымі залямі, аўдыторыямі, багатаю бібліятэкай і адзіным на ўсю Украіну гандлёва-прамысловым музэем. Штогод музэй высылаў сваіх прадстаўнікоў у замежжа, дзеля азнаямленьня з пастаноўкаю справы, здабываньня экспанатаў і г. д. Апрача гэтага, ён меў вялікую колькасьць карэспадэнтаў з усіх куткоў сьвету. Гэта вельмі пашырала папулярнасьць Інстытуту.

У складзе студэнтаў Унівэрсытэту й Інстытуту была даволі вялікая розьніца: у Інстытуце пераважалі асобы, якія скончылі камэрцыйныя школы й духоўныя сэмінарыі. Было шмат жыдоў, таму што сьпярша тут ня было працэнтнае нор-

мы, было таксама ці мала жанчынаў. Студэнты карысталіся шырэйшымі, чымся ў унівэрсытэтах, правамі: апрача звычайных „зямляцтваў”, студэнты мелі сваіх прадстаўнікоў у Радзе прафэсароў.

Была розьніца й у складзе прафэсароў: шырокая аўтаномія, якою яны карысталіся, дазваляла выкладаць у Інстытуце тым палітычна „ненадзейным”, перад якімі былі зачыненыя дзьверы ўнівэрсытэтаў, як, прыкладам, ведамы статыстык Русаў.

Кіяўскі Камэрцыйны Інстытут (другі на ўсю Расейскую імпэрыю быў у Маскве), заняў вельмі паважнае месца сярод высокіх школаў. Але прыгаданы гэтта ягоны расьцьвет, які трэба было заўдзячваць, галоўна адміністрацыйным здольнасьцям ды энэргіі Даўнар-Запольскага, спрычыніўся й да вялікіх для яго прыкрасьцяў, бо кансэрватыўная частка прафэсуры ўнівэрсытэту ставілася варожа да парадкаў, якія панавалі ў Інстытуце, абвінавачваючы Даўнар-Запольскага ў „неблагонадежности”, у рэвалюцыйнай прапагандзе й г. д.

І запраўды, побач із ростам папулярнасьці Даўнар-Запольскага сярод моладзі, расло варожае стаўленьне да яго з боку кансэрватыўных і рэакцыйных колаў акадэмічных дзеячоў. Гэты недавер да яго нэгатыўна адбіваўся на палажэньні ягоных вучняў, якім куратары школьных акругаў шмат дзе не давалі пасадаў у дзяржаўных сярэдніх школах Кіяву, ды вельмі неахвоча зацьвярджалі пэдагогамі нават у прыватныя школы. Гэтыя дачыненьні зырка адбіваліся на прыкладзе найстарэйшага навуковага таварыства Летапісца Нэстара пры ўнівэрсытэце Сьв. Валадзімера. Не зважаючы на тое, што праф. Даўнар-Запольскі меў катэдру прафэсара „русской истории”, яго ніколі ня выбіралі ў прэзыдыюм Таварыства й калі ў 1912 ці 1913 годзе старшыня Таварыства паведаміў аб сваёй адмове кіраваць далей Таварыствам, — на выбары сабраліся ўсе рэакцыйныя сябры, якія звычайна ніколі не наведвалі паседжаньняў, адно з мэтаю не дапусьціць да выбараў Даўнар-Запольскага на старшыню. Дачакаўся гэтага гонару ён толькі аж у 1918 годзе.

У 1910 г. Даўнар-Запольскі заснаваў Таварыства „Любителей социальных знаний”, якое складалася з колькіх сэкцыяў: гістарычнай, пэдагагічнай і праўнай. Сябрамі ягонымі былі пераважна выдатныя навуковыя дзеячы — як напр. В. Шчарбіна, адзін з найстарэйшых гісторыкаў Кіява, М. Істомін, А. Русаў, М. Васіленка й акадэмічная моладзь, стыпэндыяты, вучні Даўнар-Запольскага. У прыраўнаньні да паседжаньняў Таварыства Летапісца Нэстара, паседжаньні „Таварыства Любіцеляў” мелі жвавейшы й больш сучасны характар. Даклады выклікалі гарачыя дыскусіі й прыцягвалі вялікую аўдыторыю. Да новага Таварыства й да новага старшыні кансэрватыўныя колы ставіліся варожа. Непакоіла іх ня гэтак сама дзейнасьць Таварыства, як ягоны назоў і прысутнасьць паліцыі сталася блізу абавязкавай на кажным паседжаньні, — чаго, ведама, ня было ў „Нэстары”.

Успомню тут адно з гэткіх паседжаньняў. Адбывалася яно ў 1911 г. у вялікай залі й было прысьвечанае 50 угодкам вызваленьня сялян з пад прыгону. Згодна з загадам губэрнатара на паседжаньні быў прысутны маладзенькі „урадавец для адмысловых даручэньняў” Тальбэрґ, які толькі кагадзе скончыў быў ліцэй. З дакладамі выступалі салідныя спэцыялістыя — сам Даўнар-Запольскі, М. Васіленка, П. Смірноў... Аднак гэта не перашкаджала Тальбэрґу перапыняць раз-паразе даклады заявамі, што „ён гэтага ня ведаў”, і, у канцы зачыніць паседжаньне. Тое самае паўтарылася, праўда ня ў гэткай грубой форме, на дакладзе ведамай дасьледніцы масонства Т. Сакалоўскай. Усе гэтыя драбніцы стваралі каля імя Даўнар-Запольскага нейкае ўражаньне палітычнае ненадзейнасьці, няпэўнасьці, ўражаньне небясьпекі для тых, хто быў із ім у бліжэйшых дачыненьнях. Зь іншага боку, скрайныя левыя элемэнты пашыралі чуткі аб ягоным пераходзе „на права”.

Трэба сказаць, што ў Камэрсыйным Інстытуце зусім ня ўсё йшло добра. Калі справа стала на пэўны грунт, калі Інстытут стаўся собсьнікам вялікіх будынкаў, каштоўных музэяў ды бібліятэкаў, шмат хто з прафэсароў у голас заяўлялі, што немагчымая справа, каб Даўнар-Запольскі быў „нязьменным” ягоным дырэктарам і, каб маглі, вельмі ахвоча зьнялі-б яго з пасады. Ягоная ўдача, а таксама й частая нетактоўнасьць ды рэзкасьць ня здабывалі яму сымпатыі з боку прафэсуры. Наўзьверх — шырылася нездаваленьне й сярод студэнтаў-жыдоў. У іншых вышэйшых школах для жыдоў

існавала норма — ня больш 5% агульнага ліку студэнтаў, але гэтыя 5% мелі права жыць у Кіяве. Камэрцыйны Інстытут не даваў гэтага права, колькасьць студэнтаў-жыдоў ня была ў ім абмяжаваная, але студэнты гэтыя не маглі жыць у Кіяве. З гэтае прычыны яны дамагаліся, каб Інстытуту былі наданыя правы дзяржаўнае школы, ня улічаючы, што разам із гэтымі правамі, у Інстытуце будзе ўведзеная й працэнтная норма. У 1912 годзе Управа Інстытуту мусіла пагадзіцца на дамаганьні студэнтаў. Міністэрства дало Інстытуту правы, але ўсьлед увяло й працэнтную норму. Праўда, яна была тутка вышэйшая, чымся ў унівэрсытэтах, а, галоўнае, было дазволена рабіць выпускныя экзамены колькі раз на год, што давала магчымасьць прапушчаць праз Інстытут большую колькасьць жыдоў, чымся было зазначана ў афіцыйнай норме. Але нездаваленьне не паменшала: тыя-ж жыды, што дамагаліся правоў, — вялі цяпер агітацыю супроць Даўнар-Запольскага за увядзеньне нормы, хоць яна была непазьбеглая пры наданьні правоў. Усё гэтае атручвала жыцьцё Даўнар-Запольскага й выклікала жаданьне пакінуць Кіяў. Ён хацеў пераехаць у Маскву, дзе яго надзілі багатыя архівы, рабіў стараньні атрымаць пасаду дырэктара архіву Міністэрства Юстыцыі, але міністар Шчаглавітаў адмовіў яму ў гэтым тлумачачы адмову палітычнай няпэўнасьцяй Даўнар-Запольскага.

Гэткія былі ўмовы жыцьця Даўнар-Запольскага перад першаю сусьветнаю вайною. Трэба сказаць, што, не зважаючы на прыкрасьці й турботы, ён на працягу ўсіх гэтых год ня спыняў сваёй навуковай працы. Ён выдаў тры кнігі, прысьвечаныя дэкабрыстым,[4]) „Матерьялы для истории крепостного права в России", Кіяў 1905, „Украинские староства в первой половине XVI ст.", Кіяў 1908, „Баркулабовская летопись", Москва 1909, „Исследования и статьи", Кіяў 1909, „Из истории обществ. течений в России", Кіяў 1910, „Белорусское Полесье", Пинчука, т. I, „На заре крестиянской свободы", Кіяў, 1911, „История русского народного хозяйства", т. I, Кіяў 1911, (вельмі каштоўны курс, пабудаваны на матар'ялах археалёгіі), „Обзор новейшей русской истории", т. I, Кіяў

[4]) Тайное общество декабристов, Москва 1906, Идеалы декабристов, Москва 1906, Мемуары декабристов, Москва 1907.



1912 (пара Аляксандра I) ды шэраг каштоўных артыкулаў у выданьнях Сыціна як: „Великая реформа", „Отечественная война", „Масонство в прошлом и настоящем", ды інш. У 1910-1914 гадох пад ягонай рэдакцыяй вышлі тры тамы „Русской истории в очерках и статьях", — калектыўная праца, даведзеная да XVIII стагодзьдзя. Апошнія тры тамы не пасьпелі выйсьці з друку й загінулі ў рукапісах. У 1910-14 г. г. выйшаў пад рэдакцыяй Даўнар-Запольскага „Историко-культурный атлас по русской истории" Н. Палонскай.

Сусьветная вайна й эвакуацыя Кіява ў 1915 годзе спыніла навуковую працу. Унівэрсытэт і Камэрцыйны Інстытут былі эвакуаваныя ў Саратаў. Давялося жыць зь дня на дзень, як на этапе. Бібліятэкаў ня выймалі з скрыняў, навуковая праца стала блізу немагчымай. Аднак, Даўнар-Запольскі ня губляў надзеі, энэргіі ды бадзёрасьці. Калі вярнуўся ў Кіяў у 1916 годзе, ён прывёз два гатовыя, апрацаваныя ў Саратаве, праекты інстытутаў географічнага й археолягічнага. Абодвы праекты былі рэалізаваныя ў 1917 годзе, пасьля рэвалюцыі. Дырэктарам Інстытуту геаграфіі быў выбраны праф. К. Воблы, Інстытуту археалёгіі — М. Даўнар-Запольскі.

Рэвалюцыя 1917 году прынесла Даўнар-Запольскаму й усім, хто ведаў яго раней, — вялікую неспадзеўку. Група студэнтаў-бальшавікоў захапіла Камэрцыйны Інстытут, паклала пячаткі на габінэт дырэктара, паадчыняла сэйфы, забараніла дырэктару наведваць Інстытут, і, на ўзьверх, — наладзіла над ім, у ягонай адсутнасьці, суд, у якім узялі ўдзел студэнты й нават некаторыя прафэсары. Паміж іншымі абвінавачаньнямі, Даўнар-Запольскага вінавацілі й у тым, што ён паўстрымліваў стараньні ў справе наданьня правоў Інстытуту й... увёў норму для жыдоў. Але галоўным пунктам абвінавачаньня была перапіска прафэсара з губэрнатарам у справе прысутнасьці паліцыі ў Інстытуце, што даўно было заведзенае ў Унівэрсытэце, але ня было яшчэ практыкаванае ў Інстытуце. Акт абвінавачаньня й прысуд былі пераданыя ў „Совет солдацких и рабочих депутатов" і сябром Даўнар-Запольскага толькі зь вялікімі цяжкасьцямі ўдалося абараніць прафэсара.

Справа гэтая напалохала акадэмічныя колы. Даўнар-Запольскага ўважалі дагэтуль за скрайнага левага й мяркавалі, што з рэвалюцыяй ён займе нейкую высокую пасаду. Цяпер-

жа, калі шмат даўнейшых „правых" прызналіся ў сваіх рэвалюцыйных перакананьнях, справа Даўнар-Запольскага выклікала злую радасьць ворагаў. Ягонае цяжкое палажэньне ўскладнялася яшчэ й сямейнымі абставінамі.

Эвакуацыя ў Саратаў мела трагічныя вынікі для Даўнар-Запольскага. Ён быў жанаты з Н. Зайфэрт. Іхнае сямейнае жыцьцё ня было шчасьлівае дзеля надта вялікай розьніцы ў характарах. Даўнар-Запольская была прыгожаю жанчынай, якая любіла таварыскае жыцьцё й іграла значную ролю ў дабрадзейных таварыствах Кіява, бываючы на ўсіх балёх і сходах. Даўнар-Запольскія мелі двох сыноў і дачку. У часе эвакуацыі Даўнар-Запольская засталася зь дзецьмі ў Кіяве. Калі М. Даўнар-Запольскі вярнуўся ён пабачыў, што ў часе ягонае адсутнасьці абодвы сыны — хлапцы год 16-18 — выйшлі з пад ягонага ўплыву й сталіся актыўнымі сябрамі падпольнай бальшавіцкай арганізацыі пад кіраўніцтвам В. Затоньскага, асыстэнта Кіяўскай Палітэхнікі й блізкога із сям'ёю прыяцеля сп-ні Даўнар-Запольскай. Свае-ж сыны абзывалі на мітынгах бацьку „рэакцыянерам", „чорнасоценцам", „ворагам пралетарыяту" ды інш., і цярпець гэта Даўнар-Запольскаму было вельмі цяжка. Абодвы юнакі, асабліва старэйшы, Усевалад, займалі паважныя пазыцыі ў партыі. Увесну 1919 году малодшы хлапец, Вячаслаў, памёр на тыфус, а ў пачатках 1920 году й старэйшы быў забіты паўстанцамі. Іхнае імя было ўвечненае ў Кіяве ў назове вуліцы й партыйнае школы Даўнар-Запольскіх. Насьмешкаю лёсу гэтак была названая даўнейшая II клясычная гімназія, дзе праф. Даўнар-Запольскі складаў калісьці экстэрнам экзамены. Не ад рэчы будзе ўспомніць гэтта, што ў Кіяве было ці мала людзей, якія думалі, што гэтая школа мелася ўслаўляць якраз імя самога М. Даўнар-Запольскага.

Усё вышэй успомненае рабіла палажэньне Даўнар-Запольскага вельмі цяжкім. У сьнежні 1919 году, калі да Кіява ізноў набліжаліся бальшавікі, ён пакінуў места й паехаў у Навачаркаск, дзе жылі ў той час ягоная сястра ды дачка й дзе ён маніўся працягваць пачатую раней перапіску зь дзеячамі Сымфэрополю й прафэсарамі Кіява ў справе заснаваньня ў Сымфэрополі ўнівэрсытэту. Неўзабаве гэта й сталася на аснове плянаў, складзеных камісіяй пад ягоным старшынством, і некаторыя кіяўскія прафэсары пераехалі ў Сымфэрополь.

Але Даўнар-Запольскаму не пашэньціла. У дарозе ён захварэў, адбіўся ад сваіх спадарожнікаў і заместа Навачаркаску, апынуўся ў канцы ў Керчы, куды праз нейкі час прыйшлі бальшавікі. Даўнар-Запольскага арыштавалі й прывязьлі ў Харкаўскую Чака на суд. Дзякуючы спрыту ды энэргіі прыяцяляў, ён быў, аднак, вызвалены й выехаў у Азэрбайджан, на катэдру гісторыі Бакінскага ўнівэрсытэту.

У 1925 годзе М. Даўнар-Запольскі быў запрошаны Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам і Інстытутам Беларускае Культуры ў Менск. Здавалася, — ён атрымаў нарэшце магчымасьць працаваць для свайго народу й распрацоўваць сваю й ягоную гісторыю. У артыкуле А. Саковіч гэты пэрыяд жыцьця Даўнар-Запольскскага апісаны вельмі добра. На жаль, трываў ён толькі паўтара году. У 1926 годзе ён мусіў назаўсёды разьвітацца з бацькаўшчынай і пераехаць у Маскву. Тамака ён ня быў гэткі небясьпечны для бальшавіцкага ўраду, як у Менску, дзе за параўнальна вельмі кароткі час, ён зрабіў гэтак шмат і для беларускае культуры й для навукі. [5])

Апошні пэрыяд жыцьця М. Даўнар-Запольскага быў, шчыра кажучы, парою дажываньня. Ён выкладаў у высокіх школах Масквы, працягваў навуковую працу, але не друкаваў блізу нічога. У 1928 годзе выйшлі ў сьвет „Экономическая география СССР" пад рэдакцыяй М. Вольфа й Г. Мегуса. У ёй М. Даўнар-Запольскі даў разьдзел „Западный район".

Але тое, што было зьместам ягонага жыцьця — праца на дабро й славу свайго беларускага народу, — адыйшло назаўсёды. Загінула ў 1926 г. і напісаная ім у Менску „Гісторыя Беларусі", загінула й большая частка ягонае вялізарнейшае бібліятэкі, частка якое — 11.000 тамоў — ён падараваў Інстытуту Беларускай Культуры, пакідаючы Менск назаўсёды. Але цяпер ён меў маральнае падтрыманьне ў свае жонкі Надзеі Маркелоўны, якая ў свой час, калі ён сядзеў у Чака ў Харкаве шмат у чым яму дапамагла.

---

[5]) У1919 г. ён надрукаваў „Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі", у 1925 г. — „Цэнтралізацыя ці фэдэрацыя", Менск, Полымя, нум. VIII, у 1927 г. — „Народная гаспадарка Беларусі", Менск.

 

У 1929 годзе ў Кіяве была зробленая спроба правесьці кандыдатуру М. Даўнар-Запольскага на запраўднага сябру Украінскае Акадэміі Навук, але належныя інстанцыі „параілі", каб гэтага не рабіць.

У 1934 годзе, 30-га верасьня Мітрафан Даўнар-Запольскі памёр, рыхтуючыся сьвяткаваць іманіны свае жонкі: лёг на часінку адпачыць на канапу — і больш ня ўстаў.

Гэтак выглядае біяграфія гэтага выдатнага дзеяча Беларусі ды Украіны які даў так шмат для культуры й свае бацькаўшчыны й Украіны, якой ён прысьвяціў каля 20 год свайго жыцьця. У гэтым сьціплым нарысе я намагалася паказаць, чаму М. Даўнар-Запольскі быў, не зважаючы на свае вылучныя адміністрацыйныя здольнасьці й свае выдатныя навуковыя працы, усё-ж чужым у Кіяве; як сталася, што для кансэрватыстых ён быў рэвалюцыянерам, а для рэвалюцыянераў — рэакцыянерам.

Ягоны адыход ад палітычнай дзейнасьці, расчараваньне ў рэвалюцыі, асабліва ў тых мэтадах, якімі яна карысталася, выклікалі варожыя дачыненьні з боку левых сацыялістычных элемэнтаў . Да гэтага трэба дадаць завастрэньні на нацыянальным грунце. Ад канца XIX ст. на Украіне, асабліва-ж у Кіяве, усё мацней і валадарней шырыўся ўкраінскі рух. У унівэрсытэце ішло зацятае змаганьне паміж расейскаю й украінскімі часткамі прафэсуры й студэнцтва. У гэтым змаганьні Даўнар-Запольскі апынуўся між двох лягероў, чужы для абодвух. Ён абураўся супраць „единонеделимовской" ідэалёгіі, але ня чуўся й украінцам. Як беларускі патрыёт, які жадаў адраджэньня свайго народу, — ён ня мог быць няпрыхільным і да ўкраінскага руху. У Кіяве ня было, па шчырасьці, асяродзьдзя, дзе-б ён чуўся „сваім", дзе-б адчуваў, што яму спагадаюць, і толькі із сваймі вучнямі ён чуўся запраўды свабодна й добра. Але й там не заўсёды ўсё ішло, як належыць. Даўнар-Запольскі любіў дзяліцца з вучнямі думкамі, часта нязвычайна арыгінальнымі, каштоўнымі. У сувязі з гэтым, здараліся выпадкі, што хтось з менш сумленных вучняў, падхапіўшы думку свайго прафэсара, сьпяшаўся пусьціць яе ў навуковы абег, як собскую. Так, прыкладам, вялікае водгульле ў навуковых колах мела справа маскоўскага студэнта І., якому Даўнар-Запольскі быў даручыў перапісаць у Маскоўскім Архіве мін. Юстыцыі патрэбныя яму справы, заплаціўшы згары за гэтую працу. Гэты спадар выкарыстаў іх для сябе, выдаў друкам ды яшчэ й абвінаваціў Даўнар-Запольскага ў эксплятацыі. Яшчэ горшая была справа з ягоным улюбёным вучням, які, зрадзіўшы слова гонару, выступіў проці яго ў факультэце, карыстаючыся падтрыманьнем правых сяброў факультэту. Часта здаралася таксама, што Даўнар-Запольскі выклікаў варожае да сябе стаўленьне сваёй няздольнасьцяй правільна падлічаць настроі асяродзьдзя, у якім ён апынаўся. Як гэта часта здараецца з адзінокімі людзьмі, яму неставала вычуцьця, зразуменьня настрою субяседнікаў, ці шырэйшага таварыства, у якім ён выступаў. Гэта часта вычувалася на зьездах, у дакладах для грамадзкасьці. Наадварот, із сваёй звычайнай студэнцкай аўдыторыяй ён заўсёды ўмеў навязаць кантакт і, як нязвычайна добры лектар, ад першых-жа словаў цалкам апаноўваў слухачамі. Накш бывала ў чужым асяродзьдзі, дзе ён часта ня меў зусім удачы, хоць даклады ягоныя былі й навуковыя й добра прачытаныя. У 1912 г. напр., калі гэтак урачыста сьвяткаваліся ўсюды ўгодкі „айчыннае вайны" 1812 году, цэлы цыкль лекцыяў Даўнар-Запольскага, як кажуць, „праваліўся", бо ён ня вычуў настрояў слухачоў, якія чакалі усхваленьня гераічнага змаганьня з чужынцамі-французамі, а пачулі ад лектара адно навуковыя дадзеныя аб няўдачах на дыпляматычным полі, аб сялянскіх паўстаньнях, жаданьнях шмат каго з нездаволеных расейскаю тагачаснаю запраўднасьцяй, каб перамог Напалеон, і г. д.

Якраз гэтая нястача вычуцьця, бо паважнейшых прычынаў ня было ніякіх, прычынялася да памацненьня лягеру „ворагаў" Даўнар-Запольскага.

Глыбокі знаўца гісторыі, ён не абмяжоўваўся нейкім адным ейным пэрыядам — што відаць зь ягоных навуковых працаў — і ўносіў у кажную гістарычную пару штосьці цікавае, новае. Гэткім быў ягоны бліскучы курс гісторыі Расеі XIX ст., ягоныя характарыстыкі дзеячоў з часоў Александра I, клясычныя паводле карацінi й яскравасьці, а разам з гэтым увядзеньне, як фактара гісторыі, эканамічнага элемэнту. Нажаль II том — пара Мікалая І-га — загінуў у друкарні. Або возьмем маленечкі, але гэткі цікавы артыкул аб украінцы Гамалію, гэтага дзейнага масона, апісанага ў „Масонстве в про-

 

 

шлом настоящем" ці „Курс гісторыі гаспадарства Кіяўскай Русі", пабудаваны на архэолягічным матар'яле. Наагул, можна сказаць, што Даўнар-Запольскі першы даў сынтэзу архэолягічнага матар'ялу княжае пары й першы зрабіў на ягонай аснове належныя высновы, як гісторык. Кніга гэтая выклікала гарачую дыскусію й М. Пакроўскі, што ўзначальваў калісьці марксыцкую школу гісторыкаў, выступіў супроць аўтара із жорсткай крытыкай („Голос минувшего" 1913 г.). Я не кранаю гэтта пытаньне аб тым, што даў Даўнар-Запольскі беларускай навуцы й культуры — гэта, як я ўжо ўспаміналa, вычарпальна зрабіла ў сваёй працы А. Саковіч. Свомасьцяй Даўнар-Запольскага было ўменьне спалучаць у вадным гістарычным працэсе ўсе праявы культуры. Апіраўся ён пры гэтым ня толькі на архівах, але ажыўляў свае працы й здабычамі матар'яльнай культуры, літаратуры, ды мастацтва.

Зразумела, што гэты мой артыкул, напісаны ў чужыне, у Нямеччыне, без дапамогі належных крыніцаў, ня можа мець вычарпальнага характару. Я хацела даць у ім адно колькі цаглінаў для характарыстыкі навукоўца й грамадзкага дзеяча, які, няма сумлеву, адыграў вялікую ролю ў культуры Беларусі ды Украіны, і які, надыйдзе час, атрымае запраўды належную яму ацэну.

---

Беларусь — край магілаў, курганоў, гарадзішчаў, гарадкоў, урочышчаў, замкаў, замчышчаў, — край, дзе ледзь не на кажным кроку вы сустрэнеце сьляды мінулага ў памятніках, пераказах, песьнях...

Шмат гістарычных памятнікаў у Беларусі вынішчана часам, яшчэ больш абыякавай няхайнасьцяй. На шчасьце захавалася яшчэ ня мала каштоўных памятнікаў, якія сьветчаць пра гістарычнае красаваньне гэтай краіны.

АДАМ КІРКОР, 1812 — 1886



МІКОЛА КУЛІКОВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА

(Працяг)

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЦІ

## ПЭРЫЯД ЗАНЯПАДУ ПРАФЭСЫЙНАЕ БЕЛАРУСКАЕ МУЗЫЧНАЕ КУЛЬТУРЫ Й УЗРОСТ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА (XVIII — XIX ст. ст.)

1.

Здавалася-б, што вялікі ўздым беларускае культуры ў эпоху Залатое Пары стаўся тым моцным фундамэнтам, на якім магло абапёрціся далейшае разьвіцьцё беларускае музыкі, далейшая прафэсыяналізацыя, стварэньне творчых і выканаўчых кадраў і г. д. Здарылася, аднак, зусім накш. Беларусь губляе сваю дзяржаўнасьць і незалежнасьць ды пападае спачатку пад уладу Польшчы (з канца XVII ст.), а пасьля Расеі (канец XVIII ст.).

Беларуская культура, мова, грамадзкія арганізацыі — усё гэта пачынае прасьледвацца афіцыйнымі пануючымі ўрадамі (польскім, а пасьля расейскім), забараняюцца школы, друк, мова й нават музыка ды песьні. Беларусь перажывае найбольш трагічную эпоху ў сваёй гісторыі. Гэта на доўгі час затрымвае, а часткава й зусім спыняе разьвіцьцё беларускае культуры й мастацтва.

Але дух народу, ягоная воля, ягоная моц, бароніць у жорсткім змаганьні й захоўвае **свае нацыянальныя асаблівасьці, сваю самабытнасьць.** Няволя прымушае народ аддаваць свае таленты й здольнасьці на службу чужым пануючым культурным плыням і адзінае, што астаецца нацыянальна-жыцьцяздольным, гэта **народная творчасьць і народнае мастацтва.** У ім праяўляецца моц і мудрасьць народнага генія.

Як у люстры адбіваецца тут жыцьцёвы шлях народу, ягонае гістарычнае змаганьне, усё багацьце думак і разнастайныя праявы грамадзкага й бытавога ўкладу й пачуцьцяў ад глыбака пакутных настрояў да аптымізму. Прыгон, паншчына, непасільная праца, голад, нястачы й бязпраўе — ўсё гэта адлюстраванае ў народнай творчасьці зь нязвычайнаю

сілаю й дало ў скарбніцу песеннага фальклёру **найбольш высокія ўзоры** мастацкасьці як з боку тэксту, гэтак **асабліва й з боку музыкі.** Твораныя ў гэным часе песьні прыгонныя, працоўныя (жніўныя), павольныя вясельныя, песьні пра долю, калыханкі, лірычныя песьні каханьня — нязвычайна глыбокія й мастацкія. Як кантраст жахлівае рэчаіснасьці, як неперраможная, арганічная ў народзе жыцьцё-сьцьвярджальная сіла, вырасталі народны гумар, у гульнявых і жартоўных песьнях ды нястрыманая іскрыстая тэмпэрамэнтная вясёласьць у народных танцах і гульнях. Няволі й уціску народ супроцьставіць мастацкія сродкі змаганьня: войструю сатыру ў сатырычных, прыгонных і працоўных песьнях; адвагу й мужнасьць у песьнях бунтарскіх, рэкруцкіх і жаўнерскіх; і, у канцы, народны гнеў, заклік да помсты, да паўстаньня ў песьнях змаганьня, што вялі традыцыю народна-гераічнага эпасу.

Народныя паўстаньні ў Беларусі, якія мелі даўныя й багатыя традыцыі, якраз у гэты пэрыяд дасягаюць найбольш высокага ўздыму (ведамае Крычаўскае паўстаньне XVIII ст.). Яны даюць багаты матар'ял для песеннасьці (песьні пра паўстаньні Нябабы, Крывашэнкі, Галоты ды інш.). Да іх належаць паводле настрою й характару й песьні адыходнікаў, што нарадзіліся ў часе прыгону: батрацкія, бурлацкія (віцінныя), чумацкія й бунтарскія (разбойніцкія).

Гэтак паступова пашыралася кола народных назіраньняў. Народ тварыў ды перахоўваў багаты фальклёр усіх песенных цыкляў, стварыў у іх разнастайныя формы й жанры.

Найбольш узбагаціўся працоўны й бытавы цыклі. Разнастайныя працэсы сялянскае працы нараджалі паасобныя абрады й звычаі, паклаўшы свой адбітак на песьні зажыначныя, жніўныя, дажынкавыя, спарышовыя, талочныя, (апошнія бяруць пачатак яшчэ ў першабытна-патрыярхальным ладзе) ды іншыя. Характар ды спэцыялізацыя працоўных момантаў сталі крыніцаю тэматыкі й відаў песеннасьці, прыкладам у песьнях ільняных, агародных, ягадных, грыбных, пастуховых і г. д. Сацыяльна бытавы ўклад жыцьця выклікаў песьні прыгонныя, рэкруцкія, жаўнерскія (працяг старое вайсковае песьні XVI ст.), песьні адыходнікаў, бунтарскія. **Вернасьць старасьвеччыне, моцнае захоўваньне старых традыцыяў** — гэтая



характэрная рыса беларускага народу адлюстравалася й у песенным фальклёры ў выглядзе традыцыянізаваньня прыёмаў і сродкаў ягонай тэкставой ды асабліва музычнай пабудовы старавечных часоў.

Вельмі цікава, напрыклад, што з усіх славянскіх народаў практыка вандроўных музыкаў захавалася толькі ў беларусаў. Валачобніцтва ўвайшло ў звычаі Калядных абходаў (зорачнікаў, калядоўшчыкаў, хаджэньне „з казою"), у Вялікодны й Купальскія абходы па дварох (для удзельнікаў гэтак і захаваўся назоў валачобнікаў ад слова „валачыцца"). У вясельных, радзінных і хрэсьбінных абрадах і звычаях таксама выяўляецца гэтае валачобніцтва (сваты, кумы, бабкі, госьці). Адтуль-жа настала астояліся ў народзе віды й назовы валачобных і дударскіх песьняў, гульняў, сцэнаў, скокаў.

Таксама затрымаліся ў народным быце й формы батлеечных спэктакляў. Як цэлае яны ўжо адыйшлі ў мінуласьць, але пад назовам батлейкі засталася песьня рэлігійнага зьместу, якая выконваецца на Каляды групамі зорачнікаў.

Да разгляданае намі пары належыць і нараджэньне асабістае **лірычнае песьні** (у бытавым цыклі), якой суджана было стацца **асноваю ды апораю беларускага песеннага фальклёру.** Тут выявіўся пяшчотны, цёплы, лірычны характар самое натуры беларуса і, галоўнае тое, што ў лірычнай песьні адлюстраваліся найбольш поўна й зырка **сродкі музычнае творчае мовы, традыцыйныя прыёмы** складаньня песьняў, якія народ пранёс праз стагодзьдзі.

Лірычная песьня выяўляе ўсю **існасьць самабытнасьці й своеасаблівасьці** беларускага фальклёру, ёсьць самым выдатным, высокамастацкім яго ўзорам.

Наскрозь сьціплая, **ляканічная** ў сваёй музычнай пабудове (характэрныя „гукальныя ходы" ў мэлёдыка-інтанаваньні, старадаўныя лады, вольны мэтр, рэчытацыйна-імправізацыйная рытміка) ды глыбака эмацыянальная ў сваім нутраным выражэньні, лірычная песьня вырасла ў **геніяльную мастацка песенную мініятуру,** у **шэдэўр народнае творчасьці.**

Да лірычнае песьні ў беларускай песеннасьці належаць ня толькі песьні каханьня, але й шмат іншых з розных цыкляў, якія паводле характару аднолькавыя зь ёю (жніўныя, рэкруц-

кія, павольныя вясельныя, бурлацкія (віцінныя), жабрацкія, лірычныя з абрадавага цыклю й г. д.).

Вясельная павольная песьня




Разам з выкрышталізаваньнем песенных формаў у гэты пэрыяд ішоў адбор ды сталае ўжываньне **характэрнага музычнага народна-беларускага інструмэнтарыя.** Гэтак настала ўваходзяць у быт ведамыя ўжо нам дуды, дудкі, жалейкі, леры. Іх выробляюць „саматугам" на вёсках і яны нараджаюць чараду вясковых выканаўцаў, якія авалодваюць дзівугоднаю тэхнікай майстэрства (дудары, жалеечнікі, лернікі). Зь лернікаў асаблівую славу набываюць **віцебскія лернікі-старцы,** якія твораць спэцыфічную галіну старцавае духоўна-сьвецкае паэзіі ды музыкі, і якія прадаўжаюць практыку валачобных музыкаў на кірмашох, рынках, сьвятых месцах.

А мы й нішчыя старцы, мы й нявольнікі Хрыстовы...
Ані роду ў нас, ані племя...
Уміласердзься Ты, Усявышны, над тым жыцьцейкам балезным
І спашлі-ж Ты, міласерны, па маю душу і па грэшную...
(з старцавае віцебскае запеўкі).

Сярод дудароў найбольшую папулярнасьць набываюць **барысаўскія дудары** із сваімі дудамі, выдатныя віртуозы свайго інструманту й характэрныя, калярытныя беларускія выканаўцы. Частка мясцовасьцяў Беларусі ўжывала ў народнай практыцы яшчэ **рагі, рагавую музыку,** але яе хутка заступілі



старадаўныя **берасьцяныя трубы.** На Палесьсі гэтыя трубы захаваліся й да нашых часоў у палескіх пастухоў. Тут зь берасьцяных трубаў складаліся нават цікавыя **ансамблі,** якія, нягледзячы на цяжкасьць выкананьня (трубы маюць толькі колькі гукаў паводле натуральных тонаў), асягалі асаблівага эфэкту ў ігры. Мы ўжо зацемілі раней, што з княжых двароў у народ перайшлі яшчэ **цымбалы ды скрыпка. Цымбалам** было суджана стацца найбольш **характарным і тыповым інструмэнтам у Беларусі,** які замяніў гусьлі й зусім іх выціснуў з народнае беларускае практыкі й гусьлі асталіся характэрным расейскім інструмантам.

Цымбалы былі ведамыя яшчэ ў Эгіпце й Асыра-Бабілёніі. Ад VII ст. цымбалы пашыраюцца ў сярэдняй Эўропе, і пазьней трапілі й да нас, у Беларусь, дзе знайшлася для іх асаблі-ва плодная глеба для шырокага, **масавага распаўсюджаньня.** Цымбалы маюць форму трыкутнай (або трапэцыйнай) скрынкі з нацягнутымі на ёй струнамі, якія прыводзяцца ў гучаньне ўдарамі двух драўляных малаточкаў. Выраблялiся цымбалы саматугам. Няма ніводнае вёскі, дзе-б ня было цымбалаў ды цымбалістых. Цымбалы ўзгадавалі вялікі лік народных выканаўцаў-віртуозаў. Адзін зь іх — **Іван Гузілаў** — з Магілеўшчыны, у XIX ст., здабыў сабе й свайму інструманту эўрапейскую славу. Ён з трыумфам аб'езьдзіў цэнтры Заходняе Эўропы, выступаў нават у каралеўскіх палацах. Ягонаю ігрою ўзрушаны быў і выдатны французкі паэта Лямартэн, які ў сваіх успамінах пісаў пра Гузілава з захапленьнем.

**Скрыпка** ад XIX ст. таксама здабывае шырокую папулярнасьць у народзе. Трэба дзівіцца, зь якім спрытам іграе народны выканаўца на гэтым срога клясычным інструманце. Адкідаючы выпрацаваную стагодзьдзямі тэхніку скрыпічнае ігры, быццам строячы над ёю кпіны, ён трымае скрыпку ледзь не пад пахаю, а смык бярэ пасярэдзіне, і дасягае ўсё-ж прос-та дзіву годнае беглясьці й эфэкту, ды срога й дбайна захоўвае свой беларускі калярыт на чужым яму інструманце. У канцы XVIII й пачатку XIX ст. ст. ў Беларусі ў карыстаньні была яшчэ й **сямiструнная скрыпка,** із струнамі-рэзанатарамі (viola d'amour), якая ў шляхты мела назоў „вальдэмар", а ў народзе называлася **„гудзьбіцаю"** (ад гучаньня струнаў-рэзанатараў).

Ад XIX ст. даволі хутка пашыраецца ў народзе **гармонік** (баян), але ягоная папулярнасьць у Беларусі шмат уступае перад цымбаламі й дудамі, дудкамі й перад скрыпкаю.

Вялікае пашырэньне ў народзе ў гэтую пару набываюць **народныя інструмантальныя ансамблі,** як для самастойнага выкананьня, гэтак (і асабліва) для суправаджэньня сьпеваў і скокаў. Гэткія ансамблі й у розных варыянтах, выкарыстоўваюць дуды, дудкі, цымбалы, скрыпку, гармонік і бубен. Найбольш тыповымі для Беларусі былі ансамблі гэтак званае **„траістае музыкі"** (ад XIX ст.), якія складаліся з трох (стуль і назоў) народных інструмантаў: скрыпкі, цымбалаў і бубна.

Папулярнасьць інструмантаў ды любоў народу да іх выявілася й у тэкстах вуснае народнае творчасьці. У загадках, прыказках, пагаворках, казках, у песьнях і прыпеўках — усюды ёсьць успамін пра іх. Як і трэба было спадзявацца, найбольшая ўвага аддаецца дудзе, дудцы, скрыпцы ды цымбалам. Для прыкладу вось пару загадак і песенных радкоў:

У арэхавым кусьце мядзьведзь раве (цымбалы).
Тоненька бярозка, а голасна плача (жалейка).

„Бяз музыкі, бяз дуды,
Ходзяць ножкі ня туды".

„Ці ня дудка мая,
Весялуха мая".

„Мушка на акенцы
У цымбалікі б'ець".

„А скрыпачка, далібог,
Не шкадуй-жа маіх ног".

## 2.

Узрост народнае беларускае творчасьці ў гэты пэрыяд заняпаду прафэсыйнае музычнае культуры цесна зьвязаны й зь яшчэ адным выдатным фактарам — **пашырэньнем уплываў беларускага фальклёру на іншыя народы.** Яно мела сваю даўгую гісторыю, на якой якраз тут варта крыху спыніцца.

Яшчэ ў эпоху старадаўных беларускіх княстваў, нязгоды й сваркі паміж князямі прымушалі некаторых зь іх пакідаць Беларусь і пераяжджаць у іншыя землі (напр. у Прыбалтыку). Адрозьніваючыся сваёю культураю, князі-эмігранты хутка набываюць і там славу, займаюць высокія пасады й шыраць беларускую культуру. Да гэтага трэба дадаць праніка극ньне беларускае культуры ў іншыя краі праз гандлёвыя сувязі, а таксама праз вандроўных музыкаў.



У Залатую Пару, як мы бачылі, дзеля пануючага становішча беларускае культуры, яна ўзьдзеівала на шмат якія іншыя народы. Прастора Вялікага Княства ахоплівала частку ўкраінскіх, жамойцкіх і лацьвійскіх земляў, жыхарства якіх хоцькі-няхоцькі знаёміцца, а пасьля й само ўжывае беларускія абрады, звычаі, мову й песеннасьць. Некаторыя народнасьці, што перасяляюцца на землі Вялікага Княства й закладаюць тут свае калёніі, асымілююцца зь мясцовым беларускім жыхарствам, засвойваюць ягоныя абрады, звычаі й быт. Зыркім прыкладам гэтага могуць быць татарскія ў нас калёніі, якія ўжо з даўных часоў прынялі беларускую мову, песеннасьць, бытавыя формы.

Беларускія ўплывы пранікаюць і ў пануючыя ўстановы. Аб гэтым яшчэ раней сьветчаць і элемэнты беларускага народнага мастацтва ў школьных каталіцкіх драмах Польшчы, у праваслаўных містэрыях у Расеі. Нават у пару заняпаду беларускай дзяржаўнасьці беларуская інтэлігенцыя ня толькі захоўвае беларускія нацыянальныя якасьці, але ўзьдзеівае й далей на чужынцаў, у першую чаргу на палякаў ды расейцаў, якія самі аб гэтым прызнаюцца.

Прыкладам, ведамы расейскі славісты Бязсонаў у сваёй працы „Беларуская песьня" піша: „Грамадзка-культурны ўздым у Беларусі вылучыў вялікія сілы, якія сягнулі далёка за межы беларускага сьвету й далёка разьбегліся ўва ўсіх кірунках".

Далей Бязсонаў гаворыць пра перадачу культурнага дазнаньня Беларусі ў культурнае будаўніцтва на Украіну і ў Маскоўскую дзяржаву ажно да XVII ст., і выказывае думку, што славу Беларусі стварылі калянізатарскія сілы, якія зь Беларусі перасяліліся ў іншыя краіны, дзе яны займалі (нават у самой Маскве) высокія пасады й становішчы: „Усё падпала пад іхныя рэформы," — піша Бязсонаў, — „навука, друк, **публічны й хатні сьпеў, ноты"...** (падчырківаем апошнія словы, якія належаць да гісторыі нашай музыкі).

Гэтак уплываў беларускі фальклёр, і беларуская культура. Нашыя ўплывы назіраюцца ў нашых суседзяў — у Польшчы, на Украіне, у Жамойці (Летуве), Латвіі. Тут беларуская песеннсаьць была адным з папулярных сродкаў музыкаваньня ў народзе й інтэлігенцыі. Для прыкладу, беларуская народная творчасьць зь Дзьвіншчыны пашыраецца й на суседняе латвійскае жыхарства (Сахараў: „Латгальскія й Ілукстэнскія песьні.").

У Расеі ўплывы беларускае песьні былі выяўленыя ў такіх акругах, як Аранбурская, Данская, Ноўгарадзкая, і нават у песьнях далёкае Поўначы (Аланецкая й Архангельская акругі), дзе, як сьцьвярджаюць этнографы, найбольш чысты й характэрны расейскі фальклёр.

Гэтыя цікавыя зьявішчы яшчэ чакаюць на адмысловыя навуковыя дасьледваньні. Можна сказаць, — далей гэта пабачым — што чым больш пашыралася беларуская песеннасьць, тымбольш увагі й зацікаўленьня выклікала яна сярод розных народаў ды іхных прадстаўнікоў.

І вось, нягледзячы на заняпад прафэсыйнага музычнага мастацтва, знайшлося ўсёжтакі рэчышча, якім беларуская культура разьвівалася далей, ды нават узьдзеівала й на пануючыя, дзяржаўныя культуры, — гэткім рэчышчым быў беларускі песенны фальклёр.

---

**ПАПРАУКІ**

У музычных прыкладах да „Беларуская музыка", разьдзел другі, надрукаваным у папярэднім нумары ЗАПІСАУ пароблены некаторыя памылкі, якія просім выправіць: На 99 бачыне у песьні „Бяжы коню" апошні такт, апошняя нота павінна быць **рэ,** а ня **до.** На 100 бач. у песьні „Антон казу вядзе" другі радок нотнага прыкладу мусіць мець пры ключы знак **сі бэмоль,** як гэта пастаўлена й у першым радку. На бачыне 101 у батлейцы „А ў лузе, лузе" апошні такт, апошняя нота будзе **мі,** а ня **фа,** як надрукавана.



РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЕННАСЬЦЬ У СУСЬВЕТНАЙ МУЗЫЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ (XIX ст.)

### 1.

Беларускі фальклёр у сусьветную музыку ішоў дзьвюма дарогамі: 1. **праз этнаграфічныя навуковыя дасьледваньні** й 2. **праз выкарыстоўваньне беларускае песьні ў творчасьці выдатных кампазытараў.**

Спынімся спачатку на першай. У XIX ст. шэраг прадстаўнікоў беларускае інтэлігенцыі (прафэсары, студэнты, эмігранты), былі пад уплывамі ідэяў парэвалюцыйнай Напалеонаўскай Францыі аб свабодзе, роўнасьці й брацтве. У Беларусі пачынаюць прабуджацца нацыянальныя імкненьні, родзіцца большая зацікаўленасьць сваім краем, ягонай мінуўшчынай і ягонай будучыняй.

У тую-ж пару й рэвалюцыйныя настроі ў Расейскай імпэрыі родзяць цікавасьць да народаў, што уваходзілі ў ейны склад. Нацыянальныя рухі знайходзяць спагаду й сярод перадавога грамадзтва Расеі (рэвалюцыйныя гурткі Ґерцэна й Бакуніна).

Беларускія й расейскія этнографы пачынаюць дасьледваць беларускія абрады, звычаі, беларускую песеннасьць. Насовіч, Шэйн, Фэдароўскі, Бязсонаў, Сапуноў, Раманаў, Дабравольскі, Дзьмітрыеў, Радчэнка ды шмат іншых, зьбіраюць ды вывучаюць нашую народную творчасьць. Ужо ад пачатку XIX ст. з друку зьяўляюцца іхныя працы. За прыкладам вучоных-этнографаў праводзяць дасьледваньні Беларусі й мясцовыя аматары-краяведы. Дакумантальны матар'ял усё больш і больш папаўняецца. Гэтыя дасьледваньні ахопліваюць усё XIX ст., што дае права век XIX назваць **векам этнографізму** ў Беларусі.

Для гісторыі музыкі было асабліва важным тое, што ў некаторых навуковых працах пачалі ўпяршыню друкавацца й **нотныя запісы** беларускіх песенных і танцавальных ма-

тываў (зборнікі Чарняўскай, Шэйна, Шыдлоўскага, Радчанкі, Рамана, Галэмбоўскага), а гэта было штуршком да **зьбіраньня й фіксацыі напеваў.**

З музычнага гледзішча запісы песьняў былі, праўда, далёкія да ідэалу, у іх былі істныя памылкі й недахопы. Усё запісывалася на слых і таму ня было дакладнасьці. Выбар музычнага матар'ялу быў вельмі абмежаны, залежыў вылучна ад густу зьбіральніка, і таму ў запісы трапіла шмат нехарактэрнага, мешаніны. На ноты заносілася толькі сама мэлёдыя, што ў беларускім народным выкананьні зьяўляецца ўсяго толькі схэмаю й не дае запраўднага ўяўленьня пра асаблівасьці выкананьня (арнамэнт матыву, варыяцыйнасьць, глісанды, партамэнты, перадыханьні, паўзы, зьмены тэмпу, мэтра-рытміка і г. д.), а таксама не выяўляе шматгалоснага складу песьні (гармонія, контрапункт).

Аднак у гістарычным сэнсе нават і гэткія запісы былі адкрыцьцём ды мелі вялізарнае значаньне. Грамадзкасьць упяршыню ўбачыла ўзоры беларускае песеннасьці, пачала знаёміцца зь ёю, даведвацца пра багацьце народнае беларускае творчасьці, пра агульную музыкальнасьць беларускага народу, што асабліва падчырквалі ўсе зьбіральнікі й дасьледнікі. Якое вялікае ўражаньне рабіла на слухачоў выкананьне беларускіх песьняў, можа сьцьвердзіць выдатная расейская этнаграфічная **капэля Аґрэнева-Славянскага.** Аґрэнеў-Славянскі быў сам зьбіральнікам песьняў і ён уважліва падыйшоў і да беларускай творчасьці. Колькі беларускіх песьняў ён улучыў у рэпэртуар капэлі. Гэтыя песьні прайшлі зь бліскучаю ўдачаю разам з капэляю праз усю Эўропу. Асабліва ўсім падабалася песьня „Ці ня дудка мая".

Сярод выдатных музыкаў, якія заняліся справаю зьбіраньня беларускага песеннага фальклёру быў і ведамы расейскі кампазытар і тэарэтык **Н. А. Рымскі-Корсакаў.** Сваёю-ж

**Дударская песьня запісу Рымскага-Корсакава:**






рукою ён запісаў колькі беларускіх мэлёдыяў і ў тым ліку успомненую песьню „Ці ня дудка мая" (іншы назоў — „Былі ў бацькі тры сыны"), якая дайшла да нас аж з часоў вандроўных дудароў ды й сяньня карыстаецца вялікай папулярнасьцяй.

## 2.

Пашырэньне беларускага фальклёру зьвярнула на яго ўвагу й творчых сілаў — кампазытараў. Больш за ўсіх зацікавіліся беларускай песеннасьцяй польскія й расейскія кампазытары, сярод якіх былі гэткія выдатныя імёны, як Шапэн, Глінка, Мусорґскі, Манюшка, ды іншыя. Сюды-ж трэба далучыць і ўжо названых раней Рымскага-Корсакава й Аґрэнева-Славянскага.

**Фрыдрых Шапэн** (1810-1849) пазнаёміўся зь беларускай народнай творчасьцяй дзякуючы знаёмству з выдатным польскім паэтам **Адамам Міцкевічам.** Міцкевіч (беларускага паходжаньня з Наваградчыны), вельмі любіў беларускія народныя абрады, звычаі, асаблівасьці быту. Беларускі фальклёр быў блізкі Міцкевічу з маленства, быў блізкі пазьней і праз такіх зьбіральнікаў ды знаўцаў яго, як Міцкевічаў прыяцель Ян Чачот. У біяграфіі Міцкевіча ўспамінаецца, як ён пад акном сваёй каханай дзяўчыны пяяў песьню „Ляцела цяцера", якая ёсьць папулярнай беларускай народнай мэлёдыяй. Праз Міцкевіча зь беларускім фальклёрам пазнаёміўся й Шапэн, якому вельмі падабаліся беларускія напевы. Вынікам гэтага было выкарыстаньне іх Шапэнам у сваёй творчасьці. „Літоўскія песьні" Шапэна пабудаваныя вылучна на беларускіх народных тэмах. У вадным Impromptu (экспромце) Шапэн дае матыў беларускае жніўнае песьні „Ой, пайду я дарогаю". Як найбольш зыркі прыклад трэба падаць беларускую песьню „Вясёлая бяседачка".

**„Вясёла бяседачка" запісу А. Грыневіча:**



Зьвярнуўшыся да Grand Fantasie Шапэна (A дур), дзе ў другой частцы ён прыводзіць тэму з варыяцыямі, мы бачым, што тэмаю гэтай часткі ёсьць песьня „Вясёлая бяседачка", якая выступае тут блізу бязь зьменаў.




Расейскі кампазытар М. Мусорґскі (1839-1881) у сваёй опэры „Барыс Гадуноў" сярод вялікага фальклёрнага матар'ялу расейскага, польскага, дае й беларускую песьню „Як едзе ён", укладзеную ў вусны зьбеглага манаха Варлаама. Мусорґскі патрапіў адшукаць гэткі ўзор беларускае песьні, што гэты адзіны прыклад ня губляецца ў опэры й пакідае незабытнае ўражаньне сваім калярытам і таленавітым выкарыстаньнем (цікавая тут і мова, у якой нават захаванае характэрнае беларускае „ён").

**Песьня Варлама з опэры „Барыс Ґадуноў" Мусорґскага:**




Зусім накш трэба падыйсьці да беларускіх песенных уплываў у творчасьці расейскага кампазытара Глінкі і польскага кампазытара Манюшкі.

**Міхал Глінка** (1804-1857), гэта карыфэй ресейскае музыкі, у якой ён атрымаў справядлівы назоў „раданачальніка й заснавальніка" ресейскае музычнае нацыянальнае школы. Аднак, расейскія гісторыкі да гэтага часу нічога не сказалі аб беларускасьці ў жыцьці й творчасьці Глінкі, зусім абыходзячы гэтае пытаньне. Глінка беларускага паходжаньня, з Смаленшчыны, ꞓь сяла Новаспаскае. На Смаленшчыне й дагэтуль захаваліся беларускія абрады, звычаі, мова й песеннасьць. З гісторыі музыкі ды з запісаў мы ведаем, якое вялізарнае значэньне для ягонай творчасьці мелі ўражаньні з маленства навакольнай прыроды й людзей.

Хто былі гэтыя людзі? Ад каго ён пачуў першыя песьні, казкі? Гэта былі сяляне Смаленшчыны, дзе наймацней захавалася нашая старадаўнасьць. Няма ніякага сумлеву, што першыя музычныя знаёмствы й уражаньні хлапчука Глінкі ішлі ад беларускай народнай творчасьці. Дваровая аркестра дзядзькі, што так задзівіла Глінку й пакінула ў ім сьлед назаўсёды, была таксама складзеная з прыгонных беларускіх сялянаў. Смаленшчына ў жыцьці Глінкі была тым месцам, дзе нарадзіліся найбольш выдатныя ягоныя творы.

Ці-ж магло гэта не адлюстроўвацца ў кампазытарскай практыцы Глінкі? Калі ўважліва падыйсьці да творчых прыкладаў Глінкі, там можна знайсьці шмат беларускіх элемэнтаў. Возьмем хоць-бы выдатную „Камарынскую" Глінкі — гэты, паводле гісторыкаў, „жолуд расейскага сымфанізму": матыў „Камарынскай" быў запісаны Глінкаю ў сяле Камарынскае на Смаленшчыне.




Калі мы прыраўнаем гэты матыў да больш характэрных і папулярных беларускіх народных напеваў, дык пабачым дзіўнае падабенства.

**Народная песьня „Баліць мая галованька":**






Справа тут ня толькі ў вонкавым выглядзе напеваў, а ў **больш глыбокай характарнай арганічнай сувязі іх між собку,** як напеваў сваясаблівых для народу. Беларускія звароты й „запеўкі” дaслоўна раскіданыя па бачынах Глінкаўскіх твораў. Гэтак у опэры „Руслан і Людміла”, калі хто цікавіцца, можна знайсьці іх у гукальных ходах увэртуры, у мэлёдыі арыі Людмілы, у антракце да V акту, у фінальным хоры „Ах, ты, сьвет Людміла” (абыгрываньне тэрцыі). Любасьць і цікавасьць Глінкі да старадаўных ладоў і ягоныя адкрыцьці йдуць таксама ад уплываў беларускае песеннасьці, якая захавала старадаўнасьць ладавага пабудаваньня найбольш яскравага сярод усіх славянскіх народаў, і якой Глінка, як асабліва ўдумлівы чалавек, ня мог ня бачыць.




Усе гэтыя пытаньні вялікае вагі й яны чакаюць яшчэ свайго дасьледніка. Тут яны пастаўленыя ня з мэтаю, каб беларускія гісторыкі ды музыкаведы „адбіралі” Глінку ад расейскага народу, а толькі дзеля справядлівага асьвятленьня гістарычнага факту. Глінка ёсьць і будзе галавою расейскае нацыянальнае музыкі, але ён ёсьць і будзе сынам Беларусі, які (можа й мімаволі) захаваў зь ёю духовыя сувязі й чэрпаў зь ейнае народнае крыніцы жывыя плыні для свае творчасьці.

Польскі выдатны кампазытар **Станіслаў Манюшка** (1819-1872), заснавальнік польскае опэры, меў з нашым краем ужо зусім сьведамыя сувязі. Беларус паходжаньнем, (зь Меншчыны), ён вельмі блізка стаяў да тагачаснае беларускае інтэлігенцыі й быў у сяброўскіх дачыненьнях зь беларускім пісьменьнікам і драматургам Дуніным-Марцінкевічам. Беларускі фальклёр Манюшка ведаў з маленства, вывучаў яго, запісваў, і на ягонай аснове стварыў пазьней рад беларускіх тэатральных твораў (опэра „Сялянка”, „Гапон”, „Залёты”, „Вечарніцы”, аб чым ніжэй). Уплывы беларускае песеннасьці ў творчасьці Манюшкі гэтак арганічна ўплеценыя, што адыгралі значную ролю й у пазьнейшых ягоных польскіх творах. Іх ня цяжка знайсьці ў опэрах „Галька”, „Страшны двор”, дзе можна пачуць і цалком беларускія мэлёдыі, а таксама й у ягоных польскіх песьнях (Песьня „Пральля”).

Важнасьць беларускіх уплываў у творчасьці Манюшкі прызнаецца й польскаю крытыкаю.

Прычыніўся да творчага засваеньня беларускага народнага фальклёру й ужо названы намі расейскі-музычна-грамадзкі дзеяч Аґрэнеў-Славянскі, што зрабіў некалькі апрацовак беларускіх народных песьняў.

Праца над творчым афармленьнем беларускай народнай песеннасьці ня спынялася й далей. У ёй узялі ўдзел такія выдатныя й ведамыя музыкі, як Танееў, Шыманоўскі, Карловіч, Іпалітаў-Іваноў, Сакольскі, Ґрэчанінаў, Пахульскі, Падэрэўскі, Казура, Нікольскі ды іншыя (пра іх у свой час).

Вельмі цікавым фактам ёсьць скарыстаньні зь беларускай песьні такім геніяльным нямецкім кампазытарам, як **Л. Бэтховэн** (1770-1827). З гісторыі сусьветнае музыкі ведамы выпадак, калі граф Разумоўскі падараваў Бэтховэну колькі напеваў „расейскіх песьняў”. Там былі напевы й г. зв. „Северо-Западного Краю” (гэтак расейскія ўрадавыя кругі называлі тады Беларусь). Іх можна адчуць у апошніх квартэтах Бэтховэна (Ор. 59). Але найбольш зьдзіўляе ды надзіць мэлёдыя выкарыстаная Бэтховэнам у ведамай 9-ай сымфоніі.




Калі прыраўнаць яе да характэрных сьпеваў Беларусі, хоць-бы ў „Камарынскай” Глінкі, — дык беларуская стыхія выступае тут вельмі яскрава й не вымагае камэнтараў.

Справа выкарыстоўваньня беларускага песеннага фальклёру ў творчасьці прафэсыяналаў-кампазытараў наагул яшчэ амальшто некранутая й чакае на дасьледваньні. Тут можна толькі зрабіць кароткія зацемкі й сказаць, што гэтае пытаньне важнае й паважнае, бо яно пераходзіць ужо вузка беларускія межы й робіцца часткаю сусьветнае гісторыі музыкі.

(Заканчэньне будзе)

Др. УЛ. СЯДУРА

# Петра Мірановіч



## 1. ПРЫГАЖОСЬЦЬ РОДНАГА КРАЮ

Увосені 1952 году мінулі 50-ыя ўгодкі нарадзінаў і 30-ыя ўгодкі мастацкай дзейнасьці беларускага мастака-маляра Пётры Мірановіча. Прызнаньне ягонага малярскага таленту было свайго часу сьцьвярджанае ня толькі беларускай крытыкай, але й латыскімі мастацтвазнаўцамі ў Рызе, дзе 30 год таму ён пачаў свой шлях мастака.

Малярская творчасць Пётры Мірановіча мае для нас асаблівую вартасьць яшчэ й таму, што мастак не пайшоў лёгка-зводным шляхам адмаўленьня ад нацыянальных сваеасаблівасьцяў свайго мастацтва. Ён не паддаўся модзе касмапалітычных пошукаў хоць пэўна-ж, можна аддаваць даніну й новым шляхом у мастацтве, знаходзіць гармонію й суладнасьць і ў наскрозь абстрактных награмаджаньнях плямаў.

Усё-ж нам даражэй і прыямней пабачыць на абразе ня пляму, а кавалак нашае запраўднае бацькаўшчыны, адлюстраванай праз настрой і душу мастака-лірыка, якім якраз і ёсьць Мірановіч. Сёй-той з эмігрантаў перахоўвае некаторыя рэчы, вывезеныя з бацькаўшчыны. Яны для кажнага найдаражэйшыя памяткі, напаміны пра пакінуты край. Тым большае, ужо ня толькі асабістае, а ўсеагульнае значэньне маюць для нашай эміграцыі мастацкія абразы, прывезеныя ў Амэрыку Мірановічам. Яны абуджаюць у кажным з нас салодкія ўспаміны, стоячы перад імі мы нібы зноў пераносімся на родныя палі й сенажаці, лясы й вазёры. Мы бачым зноў, як жывуць і працуюць нашыя людзі, якія засяляюць нашыя вёскі й мястэчкі і перахоўваюць нашыя нацыянальныя асаблівасьці. Гэтак малярская творчасьць мастака-эмігранта становіцца фактарам, што спрыяе захаваньню нашае культурна-нацыянальнае самабытнасьці ў сьвеце.

Можна бясконца доўга ўглядацца ў Мірановічавы абразы прыроды й людзей і з кажнай часінай усё глыбей і глыбей адчуваць адвечную прыгажосьць роднага краю. І тады на вусны, самі празь сябе, прыходзяць словы Янкі Купалы, гэтым разам ужо больш асэнсаваныя, глыбака адчутыя й зразумелыя:

Ня шукай ты шчасьця, долі
На чужым далёкім полі,
Гэй, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Ня шукай ты шчасьця, долі.
Ты ўсё знойдзеш гэта блізка
Там, дзе маці над калыскай
Табе песьні напявала,
Як малога калыхала,
Толькі ўмей шукаці блізка!

І мастак Пётра Мірановіч умеў шукаць прыгажосьць на родных палетках, знаходзіць яе й мастацка выяўляць на сваіх палотнах.

## 2. ПРЫХОД У МАСТАЦТВА

Пётра Мірановіч, як ужо прыгадвалася — належыць да мастакоў, якія не паддаліся модным уплывам і захавалі сваю мастацкую самабытнасьць. Мірановіч вучыўся колькі гадоў у Рыскай Акадэміі Мастацтваў, у акадэміка Кугі і прафэсара Эліяся. Маладзейшыя латыскія мастакі знаходзіліся пад уплывам заходніх мастацкіх школаў. На нашага мастака яны ня мелі істотнага ўплыву. Гэта было толькі творчае асяродзьдзе студыі, у якім фармальна дапамагалі вызначыцца кірунку Мірановічавае творчасьці — маляваньню абразоў з жыцьця беларускае вёскі. Ужо ў першых абразох-кампазыцыях 1935-36 г. г., як „Навальніца ў сенакос", „Жніво", „Над Дзьвіною" ды інш., — Мірановіч паказаў сябе самабытным арыгінальным маляром беларускіх вясковых матываў. Гэта была новая тэматыка, гэтак не падобная да тае, што панавала ў Акадэміі. Новымі былі ягоныя абразы й паводле формы выкананьня. Калі латыскія мастакі ў Акадэміі захапляліся рознымі моднымі ў малярстве „ізмамі", дык Мірановіч узяў курс на выразны рэалізм, праўдзівае адлюстраваньне жыцьця. Але ён ня спыніўся на існуючых формах рэалістычнага мастацтва, а ўзьняўся вышэй іх. Не адмаўляючыся ад галоўнага прынцыпу рэалістычнае плыні ў мастацтве — праўдзівасьці й паўніні адлюстраванага жыцьця, ён надаў сваім абразом яшчэ больш хварбнасьці тым, што выкарыстаў імпрэсыяністычны прынцып чысьціні хварбы. Ад гэтага ягоныя абразы асабліва сьвежыя й зыркія.

Калі ў Акадэміі пабачылі самастойныя Мірановічавы працы, яго дапусьцілі й да працы дыплёмнае. Гэтак мастак пішa адразу аж дзьве — „Жніво" й „Сьнеданьне ў беларускай хаце" й абедзьве прымаюцца. Асабліва высокую ацэну мела дыплёмная праца „Сьнеданьне ў беларускай хаце". Яна была прынятая аднагалосна. Запраўды, гэта й да сяньня шэдэўр Мірановічавае, ды й наагул беларускае, малярскае творчасьці. Ніводзін мастак у нас яшчэ не паказаў гэтак праўдзіва штодзённае жыцьцё ў сялянскай вясковай хаце. Звычайныя часаныя драўляныя сьцены, печ, акно, лавы, хатнія прылады, разьвешаныя на сьценах. На пярэднім пляне зьлева жанчына ў хустцы сядзіць на нізкім зэдліку й абірае бульбу. У цэнтры гаспадыня, яна запынілася каля засланага абрусом стала із збанком малака. Бліжэй да покуці — хлопчык за сталом каля міскі. Справа, збоку на тапчане сядзіць у шапцы гаспадар і дакурвае люльку. Ягоны твар зраджвае гаспадарскія клопаты й навагу ўстаць ды ісьці зноў працаваць каля гаспадаркі. Ува ўсіх тыпова беларускія спрацаваныя сялянскія твары. Нездарма, прафэсары на ўрачыстым паседжаньні адзначылі прыход у мастацтва новага для іх

народу — беларускага, іншага й ад расейскага і ад польскага (праф. Дэніс). Гэта бязумоўна перамога мастака-беларуса. За гэтую працу у 1937 г. Пётра Мірановіч атрымаў дыплём вольнага мастака-маляра. Ад таго часу мастак намаляваў шмат новых абразоў зь беларускага жыцьця.

### 3. КРАЯВІД І ЧАЛАВЕК

Пётра Мірановіч выявіў сябе маляром розных жанраў: жанравых кампазыцыяў, бытавых абразоў, партрэтаў, мініятураў, графічных зарысовак і г. д. Але найбольш выдатна выявіўся Мірановічавы мастацкі талент мінаючы бытавыя абразы беларускае вёскі, у ягоных краявідах. Як пэйзажысты беларускай прыроды, Мірановіч дагэтуль ці мае сабе роўнага. У ягоных абразох беларускі краявід жыве й пераліваецца ўсёю сваёю шматхварбнасьцяй, нібы сагрэты людзкім пачуцьцём ды із любасьцяй перададзены палатну, ён працягвае сваё існаваньне ў новым мастацкім аспэкце. Тое, на што мастак глядзеў у далёкія гады маленства, устае цяпер праз празрыстае паэтычнае шкло. Жыцьцё ў месьце не дае нагоды дзень-у-дзень наглядаць прыроду. Мастак перакідае ўвагу на беспасярэднія дзіцячыя ўражаньні мінулага, калі ягонае ўспрыняцьце навакольнага сьвету ня было яшчэ скрыўленае ўмоўнасьцямі грамадзкага жыцьця й калі на чыстую, як габляваная дошка, дзіцячую душу кляліся прыгожыя, прасяклыя паэзіяй абразы беларускай прыроды. З гэтае скарбніцы дзіцячых уражаньняў мастак чэрпае цяпер сюжэты для мастацкае творчасьці. Ён прыгадвае загоны, дрэвы, рэчкі, хаты й палі, дубровы ды паплавы і яны уяўляюцца яму ў нейкім казачным сьвятле. З успамінаў маленства ўзьніклі „Навальніца ў сенакос", „Жніво" ды іншыя абразы. З успамінаў далёкага маленства, калі хлапчуком ён бегаў на Дзьвіну і там дражніў зь берагу плытагонаў на ганкох, гэтак званых цахуноў ці сячкоў, — узьнік выдатны абраз „На Дзьвіне". Гэтак, паводле ўспамінаў, апрацоўваюцца і ўсе вясковыя краявіды Мірановіча. Тут, мабыць, дзейнічае агульна ведамае ў мастацтве сьцьверджаньне, што добрыя рэчы творацца тады, калі пра іх згадваем з моцным сумам, тугой па нязбытным. Ведама, напр., што выдатныя абразы лета мастакі тварылі ўзімку, а зімовыя абразы — ўлетку, калі наймацней тужыць чалавек па мінулай пары году. Мабыць гэты патас тугі дапамагаў і нашаму мастаку надаць згаданым абразом прыроды гэтулькі жыцьцёвасьці й



**Дэталь з абраза „Сьнеданьне ў сялянскай хаце"**





Фото Ул. Сядуры

**Дзьвіна**

паэзіі, гэтулькі каляровае разнастайнасьці.

Найбольш удаюцца Мірановічу хварбы восені й вясны — гэтых найбольш багатых колерамі пораў году („Раньняя вясна" ды інш.). Але й жоўтая восень, паказаная ў Мірановіча жыцьцёвымі мамэнтамі, ня выклікае сумных настрояў. У краявідзе „Даўгое возера" ўдала спалучаныя жоўтыя хварбы заміраньня ў прыродзе (бярозкі) із зырка-зялёнымі хварбамі руні. Колеры азіміны на тым баку возера добра гарманізуюць з восенскімі тонамі й ствараюць бадзёры настрой, адчуваньне жыцьця нават напярэдадні зімы. Жыцьцё не замірае, — нібы прамаўляе абраз, — будзе яшчэ чалавек і жыць, і цешыцца.

Як-бы ў суладнасьці з гэтым сьветлым аптымістычным тонам, — у абразох-краявідах Мірановіча шмат сьвятла й прасторы. З гэтага гледзішча вылучаецца абраз „Рака Дзьвіна". Бяскрайні прастор воднае роўнядзі, далёкія бязьмежныя берагі Дзьвіны, залітыя зыркім сонцам, ад якога кажны каменьчык на беразе й прыбярэжным дне зіхаціць адбітым сьвятлом, лёгкія празрыста-бялявыя хмаркі што прасьвечваюцца да далёкага далягляду, — ўсё нібы сьмяецца ад уцехі й асалоды, дарма што самога сонца ня відаць... Заліты сонцам, пакідаючы за сабою цень, засявае родны загон Мірановічавы „Сейбіт". Відаць, любіць мастак сьветлыя хварбы. Яны пануюць на шмат якіх ягоных краявідах. Сьветлымі, быццам серабрыстымі, выглядаюць пожня й жытнёвыя бабкі ў „Жніве", адлюстроўваецца сонца на хмарах у „Наваль-



Фото Ул. Сядуры

**Капλічка на магільніку ў Прыдруйску**

ніцы ў сенакос", падчыркваючы тыповы для летняе буры пераходны й нядоўгі момант перад дажджом.

Мірановічавы краявід рэдка бывае бяз людзей. Часьцей ён сагрэты прысутнасьцяй чалавека, пераважна, чалавека за працай — сейбіта за сяўбой („Сяўба на хутары"), коньніка-хлопчыка на вадапоі („Дзьвіна"), касцоў на ўборцы сена („Навальніца ў сенакос"). Нават вясковыя жанчыны ў „Першай зіме на хутары" спыніліся адно на часінку пагутарыць у перапынку між працаю, бо адна зь вёдрамі вады, а іншая — з кошыкам. Мірановічавы пэрсанажы — людзі чыну, працы, дзеі. Таму пейзаж ягоны набывае дзейны й бадзёры характар. Гэта мастацтва здаровых і простых людзей беларускае працоўнае вёскі. І гэта-ж паўстрымвала Мірановіча ад насьледаваньняў розных модных плыняў. Ягонае мастацтва самабытнае, здаровае й моцнае ў самай сваёй існасьці, бо карэньні ягоныя ў беларускай вёсцы.

### 4. НАРАДЖЭНЬНЕ КАМПАЗЫЦЫЯЎ

Апрача вялікае ролі беспасярэдніх уражаньняў маленства на працэс узьнікненьня абразоў маюць вялікі ўплыў сталыя студы натуры прыроды. Мастак павінен штодня рабіць замалёўкі прыроды. Перш, чымся пачаць працу над вялікай кампазыцыяй, мастак звычайна прысьвячае шмат часу й працы сотням, а нават тысячам папярэдніх накідаў. Не заўсёды яны робяцца ў сьведамасьці пэўных кампазыцыйных задумаў, часам яны адно сама мэта. І толькі пасьля творчае ўяўленьне мастака спалучае іх аднэю ідэяй, а іхныя асобныя элемэнты ў вадзін сабраны, абагулены абраз.

Латыскі мастак-пэйзажысты Пурвіт сыстэматычна вывучае прыроду — вясну, восень, сьнег, дрэвы, сонечнае сьвятло і г. д. Выдатнейшы беларускі пэйзажысты ў Менску Мікола Дучыц не прапушчае ніводнага дня, каб ня выйсьці за горад ці ў парк, дзе ён штодня малюе прыроду. Гэтак працуюць усе вялікія мастакі. Таму й дасягаюць яны пасьля ў вялікіх кампазыцыях выдатных удачаў.

Гэтак працуе й Мірановіч. Ягоныя кампазыцыі ўзьнікаюць з маленькіх накідаў, што рабіліся яшчэ некалі, да вайны. Цяпер, калі мастак ня мае беспасярэдняе лучнасьці зь беларускай вёскай і прыродай, гэтыя старыя замалёўкі часам адзінае, што дае яму матар'ял для працы. Але раней, калі мастак меў магчымасьць часта студыяваць натуру, ён шмат папрацаваў над некаторымі тэмамі. Ягоныя абразы „Навальніца ў сенакос", „Даўгое возера", „Дзьвіна" ды інш. — вынік вялізарнае папярэдняе працы над вялікай колькасьцяй эскізаў. У сваім імкненьні даць нешта закончанае, сваё, ён рабіў правільна, калі не распыляўся на безьліч тэмаў, а сканцэнтраваў сваю мастацкую ўвагу на абраных, асабліва ўлюбёных і дарагіх. Гэтым толькі ён дасягнуў сваімай яму выразнасьці й дасьпеласьці.

### 5. ЭТНАГРАФІЗМ І МАСТАЦКАСЬЦЬ

Мастака асабліва цікавіць беларуская вёска. Ён, праўда, ўжо мала што зь яе засьпеў, бо ў Лацьвіі з 1926 г. адбыўся пераход на хутары. Але раней беларуская вёска й там мела свой асобны стыль і твар, які вырозьніваў яе ад расейскага ці ўкраінскага сяла.

Пётру Мірановіча беларуская вёска цікавіць і ў будны й у сьвяточны дзень, бо кажны зь іх надае ёй свае адмены й прывабнасьць. Але, як заўсёды, і вёска даецца Мірановічам зь людзьмі за працай ці адпачынкам. Вось абразы першае групы, казаў той, працоўнае: „Вываз гною", „Мыцьцё бялізны", успомненыя ўжо вышэй „Вадапой", „Жніво", „Сейбіт" і „Сьнеданьне ў хаце". Кажны зь іх трапна падае той ці іншы момант працоўнага жыцьця вёскі й у хаце з усімі ейнымі асаблівасьцямі, і па-за хатай.



**Партрэт Сяргея Сахарава з унукам**

А вось абраз „Хата” на тэму сьвяточнае вёскі. У зыркім сонечным сьвятле тыповыя беларускія хаты. Сьветла-рожавыя хварбы на ўсім абразе даюць адчуваньне сьвяточнага настрою. На вуліцы сядзяць асобна мужчыны, відаць, за паважнейшаю гутаркай, а асобна жанчыны ў сьвяточнай вопратцы. Вуліца пасьвяточнаму замеценая й упрыгожаная зяленівам. Побач хатаў — гародчыкі з чырвонымі макамі ды іншымі краскамі. Гаспадыні, нібы старающца адна перад адной мець лепшы кветнік у гэткіх гародчыках — тыповая зьява для беларускае вёскі ў Латгаліі.

Ад усяго гэтага гарбатыя саламяныя стрэхі й шэрыя хаты набываюць гэтаксама нейкую асаблівую сьвяточнасьць колераў і ўдала лучацца з настроем у вагульнай кампазыцыйнай суладнасьці. Усё разам творыць абраз тыпова-беларускае вёскі із сваім асаблівым стылем. Але заслугай мастака ёсьць тое, што этнаграфізм тут не самамэта. Наагул ён ня сушыць вобразнасьці й ня выпірае з арганічнае мастацкае цэласьці Міраноўчавых кампазыцыяў, пабочным элемэнтам. Ён сам ператварыўся ў вадзін з мастацкіх кампанэнтаў і толькі ўзбагачае зьмястоўнасьць ягоных абразоў, удала спалучаючы этнаграфічны мамэнт з мастацкасьцяй і служачы мэтам праўдзівага мастацкага паказу беларускае вёскі ды ейнага жыхарства. Гэтак і само мастацтва праз этнаграфічнасьць становіцца народным у поўным разуменьні гэтага слова.

## 6. МІРАНОВІЧ — ПАРТРЭТЫСТЫ

Шмат маляваў Пётра Мірановіч і партрэтаў. У яго й жаноцкі, і мужчынскі, і вясковы, і гарадзкі партрэтны тыпаж. Маляваў ён партрэты сваіх рыскіх знаёмых і беларускіх дзеячоў (прыкладам, крыху ідэалізаваны партрэт К. Езавітава і праўдзіва рэальны партрэт Галіны Езавітавай, партрэт паэты Алеся Салаўя і партрэт літаратара й навукоўца Ул. Глыбіннага, а гэтаксама надта падобны партрэт беларускага дзеяча ў Рызе Сяргея Сахарава з унукам ды інш.) Рэальнае падабенства — галоўны прынцып Міравовіча, як партрэтыстага. З гэтае катэгорыі працаў мастака вылучаюцца тонкасьцяй выкананьня і ўдалай мастацкай перадачай рысаў твару ды характару партрэты маладое жанчыны й беларускага інтэлігента. Гэта запраўдныя пэрлы ягонага партрэтнага мастацтва. Пэўныя ўдачы дасягненыя і ў партрэце маладога мужчыны, а таксама падвойным аўтапартрэце мастака.

Цікава таксама адзначыць пераняесеньне Міраноўічам партрэтнага прынцыпу ў кампазыцыі й агульныя абразы. Гэтак, тыповая беларуская жанчына — жняя за полуднем каля жытняе капы — нішто іншае, як партрэт самое маці нашага мастака.

У іншым абразе — „Жняя” — скарыстаны запраўдны твар аднае маладое, сьветлавалосае й здаровае ў сваёй лучнасьці з прыродаю й працаю сялянкі-жняі.

Надта тыповы, як селянін-беларус, і бацька мастака. На ягоным партрэце добра перададзеныя рысы й маршчакі старога спрацаванага твару, і, побач з гэтым, своамя беларусу нейкая мяккасьць, задумёнасьць і чалавечая дабрыня.

Бясспрэчна, і ў гэтым жанры Мірановіч праявіў сябе добрым маляром, з аднаго боку, на тыпажы сялянскім, як больш яму блізкім і зразумелым, а з другога боку, — інтэлігенцкім, дзе ён паказаў сябе высокакультурным і праніклівым мастаком.

Варта прыгадаць і тое, што тэхніка маляваньня партрэтаў адзначаецца ў Міроновіча сьмеласьцяй і ўпэўненасьцяй валоданьня пэндзлем, вольным і лёгкім карыстаньнем вуглём у папярэдніх накідах контураў натуры й хуткасьцяй працягу сэансу пазаваньня. Гэта адзнакі запраўднага малярскага таленту.

## 7. ВЕНСКАЯ АКАДЭМІЯ

У 1944-1945 гг., жывучы ў Вене — асяродзьдзі мастацкіх шуканьняў і розных школаў, — мастак наведваў Акадэмію мастацтва па клясе малярства. Пэўна-ж, гэта нешта дадало да ягонага знаёмства із заходня-эўрапейскімі кірункамі й тэхнікай у малярстве. Аднак, нельга сказаць, каб гэта паклала нейкі сьлед на ўжо выработаны кірунак Міраноўічавае творчасьці. Працы гэтага пэрыяду нічым асабліва ня вылучаюцца з агульнае ягонае творчасьці. Партрэт аўстрыйскае жанчыны, як і ранейшыя партрэты, — выразісты ды экспрэсыйны. Колькі краявідаў венскага пэрыяду напісаныя ў тым-жа імпрэсыяністычным стылі зь перавагаю сьвежых, сьветлых хварбаў ды сьвеглама падчыркненай гульнёй сьветлаценяў.

Нягледзячы на шырокі безпасярэдні сутык з сучасным заходня-эўрапейскім мастацтвам Пётра Міраноўіч застаўся й на далей мастаком беларускае прыроды, людзей і працы. Гэткім ён увойдзе й у гісторыю беларускага ды сусьветнага мастацтва.

---

Нарыс др. Уладзімера Сядуры аб малярскай творчасьці Пётры Міраноўіча напісаны яшчэ мінулай восеньню з прычыны 50-годзьдзя ад нарадзінаў мастака (21 версаьня). Падобна, як і друкаваны ў гэтай кнізе ЗАПІСАЎ нарыс Юркі Віцьбіча аб Алесю Сапунове (за 100-годзьдзя ад нарадзінаў), ды біяграфічныя зацемкі праф. Н. Палонскай-Васіленка аб М. Даўнар-Запольскім (да 85-годзьдзя ад нарадзінаў), нарыс аб Міраноўічу меў быць друкаваны своечасова ў 3-цей кнізе ЗАПІСАЎ мінулага году. Кніга гэтая аднак вышла толькі цяпер, як першая 1953 г., і таму друк вышэй успомненых матар'ялаў спозьнены не зь віны аўтараў.

**Рэдакцыя**

# З А Ц Е М К І

## Пра ЖАМОЙЦЬ ды ЖМУДЗЬ*)

Наш назоў для Жамойцкай зямлі — **Жамойць** — тэта ўжываная ў нас здаўна передача лятувіскага слова **žemaitis** (якое панашаму значыць: жыхар нізкога краю — нізавік). У пісаных памятках старой беларускай мовы сустракаем гэтае слова ўжо ў полацкіх актах XV ст. у форме **Жемойть.** Гэтак пішацца гэтае слова й у Іпацеўскім летапісе („Жемойть вся пошла на Ригу") ды ў Летапісцы Вялікіх Князёў Літоўскіх („Кестут собрав свою Жемойтскую землю").

Пазьней аднак, галоўна з XVI ст., больш пашырылася й замацавалася форма **Жамойць** (ці паводле тагачаснага правапісу **Жомойть).** Гэткая форма ўжываецца ўжо ў вялікакняжым тытуле князя Жыгімонта II (першая палавіна XVI ст.), хаця вялікі князь Казімір Ягайлавіч напоўных 100 гадоў раней меў у тытуле яшчэ **Жемойть.** Форму з **о** на месцы ранейшага **е** сустракаем скрозь і ў Літоўскім Статуце (1588), у Уставе на Волакі (1557), у „Попісе войска земскага Вялікага Княства" (1567) і нават раней ужо, бо ў 1420 г., у грамаце вялікага князя Вітаўта пісанай палацінску ў гэткай цікавай транскрыпцыі лацініцаю: Szomoyth. **)

Ад канца XIV ст., пасьля Крэўскай вуніі, палякі праз нашыя землі й **праз сутык** з нашымі людзьмі пачынаюць практычна часьцей сустракацца й з жамойцкімі справамі ды з нашым назовам Жамойцкай зямлі, якая належыла да Вялікага Княства Літоўскага. Паволі яны пачынаюць асвойваць гэтае чужое сабе слова ды датарноўваць яго да правілаў польскае мовы. І гэтак з часам нашая **Жамойць** адбывае ў іх эвалюцыю праз Żmójdź ды Żmujdź аж да сучаснай Żmudź.

Як лёгка заўважыць, асыміляцыя нашага слова адбылася цалком згодна з правіламі польскае мовы. Падобна да таго, як словы **калоць, пароць** у польскай мове маюць форму **клуць** ды **пруць,** гэтак і першы склад слова **Жамойць** быў патрактаваны як нашае паўнагалосьсе ды была праведзеная ў ім рэдукцыя (выпушчэньне **а** па **ж**). Згодна з духам польскае мовы й у другім складзе быў праведзены тыповы палякам пераход **о** ў **у** (як напр. у словах **бот —but, Бог — Bóg** і г. д.) Так і атрымалася польская Żmudź.

Гэтая эвалюцыя, гэта ня нейкія толькі дагадкі. Яе можна практычна прасачыць на пісаных польскіх памятках ад XV ст. аж да сяньня. З самога бадай пачатку адбылася рэдукцыя першага складу ды пераход **о** ў польскае **ó** („у крэскованэ") у складзе другім. Пазьней прышла замена **ó** на **у,** і толькі параўнальна нядаўна выпушчэньне **й.** Яшчэ на пачатку XX ст. друкаваліся польскія кніжкі зь **й** у гэтым слове, значыцца Żmujdź.

*) З прычыны зацемкі Я. С.: „Жмудзь" ці „Жамойць", у № 3(8) часапісу ВЕДА з 1952 г., бачына 87.

**) Codex Epistolaris Vitoldi M. D. L., 1376-1430. Cracoviae 1882. №. 861. Бач. 467.



„Дзь" на канцы таксама беларускага паходжаньня, хоць стары правапіс пераважна й ужываў заместа яго бліжэйшую да лятувіскага арыгіналу форму з „ть". Што ў нас даўней вымаўлялася ня раз „дзь", хоць і пісалася традыцыйным правапісам накш, гавораць сустраканыя словы **„жомойдскі"** (напр. у вадным акце з 1512 г.), а таксама захаваныя й да сяньня такія беларускія прозьвішчы, як **Жамойда,** або **Жамойдзь** (прозьвішча аднаго з падсудных працэсу вызваленьня Беларусі ў Беластоку з 1923 г.).

Спольшчаная форма **Жмудзь** прынялася пазьней (XVIII-XIX ст. ст.) і ў паўсталай тады літаратурнай расейскай мове ў выглядзе **Жмудь,** хоць у ранейшых маскоўскіх граматах, напр. XVI ст., ужываецца беларуская форма **Жомойть.**

Паходжаньне слова Żmudź у польскай мове было ўжо ня раз навукова выясьнянае ад больш як поўвеку гэткімі гісторыкамі-моваведамі, як Томсэн, Мацэнаўэр, Брукнэр. Адзін з найвыдатнейшых сучасных славістаў Эўропы, праф. М. Васмэр, разглядаючы у 1952 г. паходжаньне слова **Жмудь** у расейскай мове, піша гэтак: Die u-Formen stammen aus polnischen Żmudź, Żmódź„ żmujdski, diese aber aus litauischem žemaitis. *)

Недакладнасьць гэтта праф. Васмэра толькі тая, што польская **Жмудзь** не паўстала, як ён падае, **безпасярэдня** зь лятувіскага žemaitis, а толькі праз нашае **Жамойць (Жамойдзь).** Без пасярэдняга беларускага лучва **Жамойць** пераход з **žemaitis** у **Żmudź** быў-бы цяжка зразумелы ды сумлеўна ці наагул магчымы.

Дык дакладна эвалюцыйны ланцуг ад **žemaitis** да польскага **Żmudź** ды расейскага **Жмудь** выглядаў гэтак: зь лятувіскага **žemaitis** паўстаюць беларускія **Жемойць, Жамойць (Жамойдзь),** з гэтага пайшлі польскія Żmódz, Żmujdź аж да сучаснай Żmudź, якая й была перанятая ў расейскую мову як **Жмудь.**

У лацінскай мове прыняўся для Жамойці назоў Samogitia. Літара **а** ў першым складзе гэтага слова ды **о** па **м** гавораць за гэтым, што й лацінскі назоў быў утвораны на аснове назову беларускага, а не лятувіскага ці польскага.

Калі ў пазьнейшых вякох беларуская шляхта ды інтэлігенцыя апалячэлі, дык яны часам ужывалі й палянізаваныя формы гэтага слова, але з вышэй пададзенага агляду гістарычнай эвалюцыі бачым ясна, што **беларускімі** формамі ёсьць толькі словы: **Жамойць** (ці **Жамойдзь**), **жамойцкі.** Словы-ж **Жмудзь, жмудзкі** ніколі ня нейкія „сучасныя", „новыя" беларускія формы, а чыстыя палянізмы.

Адгэтуль і просты практычны для нас выснаў: у беларускай літаратурнай мове павінна ўжывацца толькі свае **Жамойць, жамойцкі,** ці **Жамойдзь, жамойдзкі.** Ужываньне-ж польскіх формаў **Жмудзь** ды **жмудзкі,** гэта барбарызм гэткай-жа ступені, як нехта ў беларускай мове пачаў-бы заводзіць словы **клуць** ды **пруць** на месца нашых **калоць, пароць.** **С. Б.**

*) Пабеларуску: „Формы слова з **у** (значыцца расейскія **Жмудь, жмудски,** С. Б.) паходзяць з польскага Żmudź, Żmódź, żmujdski, а тыя ізноў зь лятувіскага žemaitis.

# АДЫШЛІ

## *Мікола Равенскі*

**6.12. 1886 — 9.3. 1953**

Беларуская культура й мастацтва панесьлі ў гэтым годзе вялкіую страту — 9-га сакавіка г. г. у Лювэне (Бэльгія) — памёр на 67 годзе жыцьця беларускі музычны дзеяч — кампазытар, этнограф, пэдагог, рэгент і музычны крытык Мікола Равенскі. Ён быў адным з нашых старэйшых і найбольш адданых нацыянальнай справе мастакоў-музыкаў.

Выяўляючы з маленства музычныя здольнасьці М. Равенскі атрымаў і на зьдзіў добрую, грунтоўную тэарэтычную падрыхтоўку. Усё гэтае ён не разгубіў сярод чужых, як гэта ці раз здаралася із нашымі таленавітымі мастакамі, а прынёс і ахвяраваў сваёй бацькаўшчыне. Аднак, нацыянальнае беларускае жыцьцё не магло красаваць і разьвівацца пад чырвонаю акупацыяй, наадварот, яно душылася ўсімі спосабамі, а зь ім і ўсё шчырае, запраўды беларускае. Пакутваў і Мікола Равенскі. Аддаўшы ўсе свае сілы й веды беларускай нацыянальнай справе, ён хутка трапляе пад абух вынішчальных бальшавіцкіх „чысткаў", абвяшчаецца „нацдэмам" і ня гіне, магчыма толькі таму, што быў нязвычайна сьціплым, ціхім чалавекам. Але на працягу ўсіх год, пражытых ім пад савецкім рэжымам, як толькі надыйходзіла чарговая чыстка ці зьмянялася палітычная лінія, дык адразу-ж „чырвоная каса" ўзносілася гвалтоўным узмахам і над Равенскім. Гэтак, у вечнай няпэўнасьці й боязі, мінулі ягоныя найлепшыя, сьпелыя гады.

Міколу Равенскага колькі раз выкідалі й з Саюзу Кампазытараў, і з настаўніцтва й наагул з усяго творчага жыцьця паняволенае Беларусі. Трэба толькі дзівіцца, як у гэткіх умовах мог жыць і нават тварыць Мікола Равенскі, і тварыць якраз тое, што хацела выявіць, сказаць ягоная шчырая беларуская душа. Аднак, буйнейшыя рэчы кампазытара гэтак і засталіся нясконачаныя ці яму самому даводзілася часам із болем кідаць іх у вагонь.

Ды адна спадчына Равенскага ўсё-ж засталася. Гэта ягонае найбольш улюбёнае, галоўнае дасягненьне, вялікая праца над беларускім музычным фальклёрам, якой ён у васноўным і прысьвяціў сваё жыцьцё. Скарбніца Равенскага ў гэтай галіне яшчэ ў савецкія часы была багатая. Як этнограф, ён сабраў для Інстытуту Беларускае Культуры, а пасьля для Беларускай Акадэміі Навук (супрацоўнікам якое ён быў даўгія гады) шмат фальклёрнага песеннага матар'ялу. М. Равенскі быў і адным зь ініцыятараў этнаграфічнае сэкцыі ў Менскай Беларускай Кансэрваторыі. Як кампазытар, Мікола Равенскі вырас таксама на глебе народнай і шмат чаго напісаў, ад простых народных песьняў, да складаных інструмантальных і вакальных твораў. Імя кампазытара, пачынаючы ўжо ад 20 гадоў, робіцца ўсё больш папулярным у беларускім народзе, асабліва ў асяродзьдзі народных мастакоў, бо кажны блізу вясковы гурток, самадзейнасьць кажнае беларускае вёскі, выконвалі із любасьцяй рэчы М. Равенскага.

На эміграцыі, у Нямеччыне, М. Равенскі не знайшоў, як і ў Бацькаўшчыне, спрыяльных умоваў для жыцьця й творчае працы. Аднак, і ў лягерох для ўцекачоў, у халодных, цёмных і дымных „дыпіскіх" бараках, гэтая нястомная музычная пчала „зьбірала рупна мёд", працуючы над самымі рознымі жанрамі твораў, пабудованымі на народнай аснове. Якраз тут былі створаныя ягоныя найбольш сьпелыя творы: беларуская фантазія для скрыпкі й фартэп'яна, царкоўныя рэчы, апрацоўкі песьняў, як прыкладам, гімн „Магутны Божа", што застанецца вечным помнікам у беларускіх сэрцах таму, хто яго стварыў.

У самыя апошнія часы, Мікола Равенскі, як быццам, апынуўся, хоць і далёка ад родных мясьцінаў, у крыху л е п ш ы х, спакайнейшых жыцьцёвых умовах, да таго-ж яшчэ ў цесным сяброўстве зь беларускай моладзяй, якую ён так любіў. Праца зь беларускім студэнцкім ансамблем, запісы пліткаў, падрыхтоўка песеннага зборніка й кампазыцыі — усё гэта цешыла й самога музыку, і ўсё беларускае грамадзтва. Але гэтая ўцеха ня была суджаная М. Равенскаму надоўга: цяжкая хвароба бязьлітасна, хуткімі крокамі, прывяла яго да магілы. Дзіўна, што лёс быў гэткі жорсткі да гэтага ціхога, сьціплага, заўсёды ветлівага, шчырага, здольнага й культурнага чалавека што ён, меў для яго так мала запраўднае радасьці ды ўцехі й так шмат расчараваньняў, перасьледаў, згубаў ды адзіноты.

І адно можа, хіба, крыху суцішыць наш жаль: тое, што імя Равенскага заўсёды будзе, як і ягоны мілы й добры вобраз, жывое для нас, будзе прамаўляць да нас зь ягонае песьні, задзіночваць нас зь ім і пасьля таго, як ён адыйшоў ад нас назаўсёды.

**М. Куліковіч**

---

Найшырэйшы жанравы размах, разнароднасьць формы, глыбіня зьместу, сваеасаблівасьць і мастацкія якасьці паставілі беларускі сьпеўны фальклёр на адно зь першых месцаў у сусьветнай народна-песеннай літаратуры.

МІКОЛА РАВЕНСКІ
Зь недрукаванай працы „Характэрныя рысы беларускай народнай песьні".

# КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ

**Г. П. Федотов. Новый Град. Сборник статей. Нью-Йорк 1952, 377 бач.**

1-га верасьня 1951 г. ў штаце Нью-Джэрсі памёр выдатны расейскі вучоны й публіцысты, прафэсар Расейскай Праваслаўнай Багаслоўскай Акадэміі ў Нью-Ёрку, Ґеоргі Фядотаў. У памяць ягоную, Чэхаўскае Выдавецтва выдала зборнік выбраных артыкулаў, якія друкаваліся на працягу 30-40 гадоў у розных расейскіх эміґранцкіх выданьнях.

У гэтых артыкулах аўтар у першую чаргу займаецца разглядам розных праблемаў расейскае гісторыі, культуры й палітыкі. Ягонае заданьне — „ўхапіць вобраз запраўдную, — і гэта ня значыць чыстай і бязгрэшнай, — Расеі ды вызначыць асновы, на якіх мае вырасьці ейнае гістарычнае жыцьцё". (б. 376) Але мы ведаем, што шмат хто з расейскіх эміґрантаў разумее Расею як усю былую Расейскую імпэрыю, і што, калі гутарка йдзе й пра самую толькі Расею (Вялікарасею), дык ейная гісторыя й ейны лёс, як найбольшае нацыі ў складзе гэтай імпэрыі на працягу стагодзьдзяў,— робяць усе, зьвязаныя зь ёю, праблемы цікавымі й вызначальнымі й для ўсіх іншых народаў усходняе Эўропы.

Зборнік артыкулаў Ґ. Фядотава мае даволі разнастайны зьмест. Для нашага чытача асабліва цікавыя артыкулы зь першае часткі кнігі, як „Россия и свобода", „Доля Империи", „Русский человек", „Трагедия интеллигенции", ды інш. (б. б. 9-214).

Трэба адразу сказаць: Ґ. Фядотаў — аўтар, якому свомыя бліскучы стыль, жывая думка й цяпліня пачуцьцяў. Ягоныя артыкулы можна чытаць, — незалежна ад таго, ці чытач пагаджаецца зь ягонымі поглядамі, ці не, — зь вялікім зацікаўленьнем ды здаваленьнем. Адначасна, у іх нельга шукаць паўніні й шырыні навуковых досьледаў. Гэта хутчэй таленавітыя нарысы, спробы пастаноўкі таго ці іншага пытаньня, зь імкненьнем выявіць тую „частку праўды" (пазычаем думку ў украінскага вучонага Ю. Шэраха), якую аўтар хоча спэцыяльна зазначыць.

У кніжцы закранена вельмі шмат пытаньняў. Памер гэтае рэцэнзіі не дазваляе ня то што абмяркаваць іх, але нават і пералічыць. Хочам адно спыніцца на тых, якія нам здаюцца асабліва цікавымі. Дык вось, гаворачы пра гісторыю Расеі, аўтар зазначае, што „слабасьць юрыдычнага разьвіцьця Русі — факт бясспрэчны" (145 б.) Разгром дробных фэадальных гаспадарстваў быў у Расеі шмат дакладнейшы, чымся на захадзе Эўропы. „Дарэшты выкарчоўваліся ўсе мясцовыя своеасаблівасьці й традыцыі, — з гэткаю ўдачаю, што ў народнай памяці ўжо не захаваліся гераічныя лягенды мінулага... Старадаўныя княствы рускае зямлі жылі хіба адно ў зьдзеклівых і прыніжальных прозьвішчах-мянушках, што адны давалі іншым. Гэтыя малыя гаспадарствы згубілі ўвесь свой гістарычны калярыт які гэтак упрыгожвае іх у Францыі, Нямеччыне ці Ангельшчыне. Русь сталася суцэльнай Масковіяй, аднастайнай прасторай цэнтралізаванае ўлады й натуральнай перадумовай для дэспатызму". (147). Супраць памацненьня расейскага дэспатызму змагаліся ў XV-XVI ст. расейскія баяры. „Але народ не падтрымаў баярства й палюбіў Грознага. Прычыны гэтага ясны. Яны заўсёды аднолькавыя, калі народ падтрымлівае дэспатызм супраць свабоды — як у часы Аўгуста, гэтак і ў нашыя дні: сацыяльныя супярэчнасьці й нацыянальны гонар". (148).

„Бяз галасьлівых ваенных перамогаў, навэт бяз выразнага духу змаганьня, адной нялюдзкай працаю, вытрываласьцяй, больш потам, чымся крывёю, пабудаваў масквіцянін сваю страшную імпэрыю. У гэтым наскрозь пасыўным гераізьме, у нявычэрпнай здольнасьці да ахвяраў, была заўсёды галоўная сіла расейскага жаўнера аж да апошніх дзён імпэрыі" (150).

Дык ці можа Расея вярнуцца да свабоды? „Дазнаньне гісторыі, — кажа Фядотаў, — трэба думаць, дае адмоўны адказ. Свабода, у грамадзка-палітычным разуменьні, не належыць да інстынктыўных ці агульных элемэнтаў людзкое грамады. Толькі хрысьціянскі Захад выпрацаваў на працягу свайго трагічнага сярэднявечча гэты ідэал і зьдзейсьніў яго апошнімі стагодзьдзямі". (169).

Ці лучыцца гэтая адсутнасьць свабоды ў гісторыі Расеі з палітыкаю паняволеньня іншых нацыяў ды народаў? Блізу адзін у расейскай навуцы й публіцыстыцы, Фядотаў адказвае на гэтае пытаньне сьцьвярджальна: „Для самай Расеі гвалтам накінены працяг існаваньня імпэрыі, быў-бы загубай надзеі на собскую ейную волю. Ня можа дзяржава, якая на палове свае прасторы трымаецца тэрорам, забясьпечыць свабоду іншай палове. Як за часоў маскоўскіх цароў, самадзяржаўе было цаной, заплачанай за экспансыю, — гэтак адзіны парадак, што патрапіць працягваць існаваньне катаржнае імпэрыі — гэта фашызм". (198).

„Калі сьветам пачне кіраваць адзіная ўлада, — адзіная шанса ягонага ратунку, — яна будзе прымушаная спыніць кажны гвалт адных народаў над іншымі". (198).

Мы ўспомнілі тут толькі колькі цытатаў, узятых адно з двох артыкулаў: „Россия и свобода" ды „Доля империи". Гэткіх цытатаў, зьвязаных зь іншымі тэмамі й пытаньнямі можна было-б падаць шмат больш, бо ў сваіх нарысах аўтар кранаецца шмат якіх праблемаў гісторыі Расеі ды Эўропы. Але ўсе яны слаба злучаныя адзінствам гістарычнае канцэпцыі, якая ў Фядотава як быццам недапрацаваная й не прадуманая да канца, да свае канцавое паўніні. Ды затое яны злучаныя адзінством настрою й здольнасьцяй да сьмелага, крытычнага ды самастойнага іхнага вырашэньня. Дадамо, што яны пісаныя чалавекам жывога таленту, з той „іскрай Божай", якая дае жыцьцё найбольш сухім і абстрактным тэмам.

Кнігу Фядотава варта прачытаць і нашаму чытачу, не дзеля таго, каб з усім згадзіцца, (у ёй ці мала супярэчных паглядаў і ў справе Беларусі), але дзеля таго, каб пазнаёміўшыся з думкамі расейскага навукоўца ў дачыненьні да жывых праблемаў мінулага й сучаснага Усходу Эўропы, падыйсьці бліжэй да разуменьня й выяўленьня гэтых праблемаў.

**Л. А-ч.**




© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

**Dr. Adolf Chybiński: MIECZYSŁAW KARŁOWICZ (1876-1909). Kronika życia artysty i taternika. Kraków 1949. Бач. 552 + LX.**

Гэтак завецца выпушчаны А. Хібінскім першы том працы, у якой аўтар стаўляе сабе мэту даць летапіс фактаў і падзеяў з жыцьця выдатнага кампазытара М. Карловіча. Хібінскага лучыла з Карловічам колькі-гадовае сяброўства, да таго-ж, ён належыць да тых перадавых лзеячоў польскае культуры, якіх, праўда, ня шмат, але якія аб'ектыўна і з павагаю ставяцца да культуры іншых народаў і, нават, да іхных уплываў на польскае мастацтва. Усё гэта спрыяла выяўленьню ў жыцьці й творчасьці Карловіча шырокае й арганічнае ў яго **плыні беларускасьці.** Ад народжаньня ў Віленшчыне (Вішнява, Вялейскага павету), ад першых уплываў беларускае няньки, што яго гадавала, ад ейных народных песьняў ды казкаў, ад першых ураженьняў красы беларускае прыроды, — маленькі Мячыслаў убраў у сябе гэтую плыню беларускасьці. Лятуценьні аб прыгожым краі свайго маленства, ідэалізацыя яго, не пакідалі Карловіча праз усё жыцьцё й былі тым яскравейшыя й больш чулыя, чым далей быў ён ад свае „літоўскае зямлі". Што датычыцца уплываў чыста музычных, дык яны таксама ішлі ад беларускасьці, ад найбольш улюбёных Карловічам мэлёдыяў Манюшкі, які, як ведама, таксама як і Карловіч, быў з паходжаньня беларусам і шырака ўжываў у сваёй творчасьці беларускую песьню.

З гэтымі ўраженьнямі маленства й пайшоў Карловіч у сьвет. Ягоная музычная асьвета была вельмі паважная (як і агульная адукацыя): як скрыпач, ён вучыўся ў выдатнага мастака Барцэвіча, тэорыю музыкі праходзіў у кампазытара Нашкоўскага й пэдагога Рагускага, а кампазыцыю вывучаў у знанага нямецкага тэарэтыка Урбана. Карловіч быў і салістым-скрыпачом, і дырыгентам, і кампазытарам, аж пакуль гэтая апошняя здольнасьць канчальна не перамагла абедзьве іншыя. Як кампазытар, Карловіч быў вельмі ня частым зьявішчам сярод польскіх музычных творцаў. Ён выбраў **сымфанічную музыку,** складаную, цяжкую й не папулярную, да таго-ж ня свойму польскай музыцы, дзе пераважала ў тыя часы Шапэнаўская традыцыя — фартап'янная музыка. У гэтым сэнсе добра сказаў аб Карловічу ведамы польскі кампазытар Ружыцкі: „Карловіч належыў да тых нешматлікіх артыстых-творцаў, якія не зважаюць на густы грамадзтва, а йдуць собскаю дарогаю, незалежнай ад пабочных уплываў, ня прыслухоўваюцца да моды й ня шукаюць лёгкага спосабу здабыцьця таннае славы й папулярнасьці".

На жыцьцёвым і творчым шляху Карловіча радасьць і здаваленьне былі рэдка сустраканымі гасьцімі. Аўтар, які адмовіўся пісаць „кракавякі" ды „мазуркі", а пачаў кранаць у сваёй музыцы філязафічныя праблемы, прыйшоўся зусім не да густу польскім музычным колам. Польская крытыка, галоўна Варшаўская, або „забівала яго маўчаньнем", або, наадварот, „кідала на яго праклёны".

Як можна ў кнізе аб Карловічу „паміж радкоў" прачытаць, перашкаджала яму й ягоная беларуская плыня. У адным замежным канцэрце, як прыклад, А. Хібінскі падае што, Карловіч проста баяўся даць у праграму сваю „Літоўскую Рапсодыю", каб яго не палічылі „не паляком".

Але як-бы там ня было, факты застаюцца фактамі: урэшце рэштаў Карловіч уцякае з Варшавы, дзе жыцьцё было для яго „катаргай" (ліст да музыкі Даманоўскага).

Усе гэтыя жыцьцёвыя абставіны, з дадаткам вечнае тугі па родных азёрах, барох, палёх, з думкамі аб жыцьці й лёсе народу, што быў блізкім, сваім для Карловіча, пахварбавала й усю творчасьць кампазытара ў цёмныя, трагічныя колеры. Польская крытыка ўвесь час падчырківала, што музыка Карловіча „сумная, панурая, як панурая й сумная й уся тэматыка ягоных твораў". — „Трагэдыя жыцьця — матыў тэмаў Карловіча" (Ружыцкі).

Трагічная была й сьмерць Карловіча, якога засыпала ў Татрах сьнежная лавіна ў пару найпаўнейшага разьвіцьця людзкое жыцьцяздольнасьці, на 33-ім годзе жыцьця.

Беларуская грамадзкасьць ставіцца да Карловіча заўсёды, як да свайго таленавітага суродзіча, дарагога й блізкога нам тым, што ён і на службе польскай культуры сваю беларускасьць адкрыта, шчыра адлюстроўваў у сваёй творчасьці. Сваю працу ён пачаў ад запісаў і апрацоўкі беларускіх народных матываў. Пазьней, Карловіч патрапіў увесьці іх, як творчы матар'ял, у свае вялікія сымфанічныя тэмы. Гэтак у музычнай паэме **„Адвечныя песьні"** (1904-1906), у другой песьні пра каханьне й сьмерць, Карловічам выкарыстаныя арыгінальныя беларускія матывы хаўтурных песьняў, чутых ім у родным Вішняве. Уся польская крытыка ня толькі адразу пазнала іх, ня толькі адзначыла й іхную чыста народную, беларускую форму, выкарыстаньня (паліфанічны трыгалосны канон), але й адназгодна заявіла, што гэтая песьня паэмы й найбольш удалая, майстэрская паводле формы й глыбіні зьместу.

Але вяршынаю беларускага элемэнту ў творчасьці Карловіча ёсьць сымфанічная паэма **„Літоўская Рапсодыя"** (1906 г.). Яна — нібы запраўдны, шчыры й прачулы абраз і сьветчаньне тых ягоных сыноўскіх пачуцьцяў да роднага краю, якія чырвонаю ніткаю снуюцца праз усю ягоную творчасьць. У вадным лісьце (да Хібінскага), сам Карловіч піша аб сваёй „Рапсоды":

„Я хацеў заклясьці ў ёй увесь жаль, сум і адвечную няволю таго народу, чые песьні ў маім маленстве зьвінелі".

Уся „Літоўская Рапсодыя" пабудаваная на арыгінальных і характарных тэмах жніўных беларускіх песьняў, якія зьбіраў і пільна запісваў у свае „нататкі" Карловіч па беларускіх вёсках, — у родным Вішняве й недалёкіх ад яго Ляшчанятах ды Гаркалёх.

Частцы беларусаў, што жылі да апошняе вайны пад Польшчаю, Літоўская Рапсодыя Карловіча была ведамая, хоць і ня часта выконвалася. Але шырэйшае кола беларускага грамадзтва, асабліва тыя, што жылі, ды яшчэ й сяньня жывуць „за заслонаю", аб творчасьці Карловіча наагул, і аб „Рапсоды" зусім ня ведаюць. Цэннасьць працы А. Хібінскага для нас тая, што яна аб'ектыўна раскрывае жыцьцё й творчую душу яшчэ аднаго нашага таленавітага мастака, што служыў, на жаль, чужой культуры.

**М. Кулlковіч**

# ХРОНІКА

**Агульны Зьезд Беларускага Інстытуту.** 14 сьнежня 1953 г. у Нью Ёрку адбыўся Агульны Зьезд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва для агляду праведзенай працы ў мінулым годзе, для абмяркаваньня працы на будучыню, для перавыбару ўладаў ды зацьверджаньня папправак статуту.

З справаздачаў уступаючай Управы было відаць, што за першы год (Інстытут закладзены 16 сьнежня 1951 г.) была праведзеная не малая праца ў галіне арганізаваньня ды разбудовы новастворанай навукова-культурнай установы беларускай эміграцыі. Сяньня ў Інстытуце згуртавалася больш паўсотні беларускіх навукоўцаў, мастакоў і пісьменьнікаў з Канады, Англіі, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыны, Італіі, Аўстраліі, але перадусім і найбольш з Злучаных Дзяржаваў Паўночнай Амэрыкі.

Хоць першы год з мусу быў прысьвечаны перадусім нутраным арганізацыйным справам, але Інстытут пасьпеў правясьці й значную навуковую працу. У мінулым годзе было сарганізавана 5 навуковых рэфэратаў (В. Тумаша аб нашых культурных уплывах на Польшчу й аб літаратурнай творчасьці Н. Арсеньневай; праф. Л. Акіншэвіча аб гістарычных канцэпцыях Усходняй Эўропы ў Тойнбі; дац. Я. Ліманоўскага аб Янку Купале; кампазытара М. Куліковіча аб старадаўных інтанацыйна-ладавых фармацыях у беларускім фальклёры).

Беларускі Інстытут у першым годзе свайго існаваньня распачаў і выдаваньне свайго навуковага органу — ЗАПІСАЎ — з матар'яльнай ахвярнасьці грамадзянства й сяброў Інстытуту. Дзеля матар'яльных перашкодаў у мінулым годзе выйшлі аднак не пляннаваныя 3 кніжкі часапісу, а толькі дзьве.

Паўстаньне Інстытуту ды выхад навуковага часапісу даступнага для ўсіх нашых навуковых працаўнікоў значна ажывіла іхную творчую актыўнасьць. За мінулы год было прыгатавана да друку некалькі новых працаў з галіны беларусаведы сябрамі Інстытуту, была закончаная апрацоўка некалькі іншых, распачатых яшчэ раней. Інстытутам улічаныя больш дзесяцi зборнікаў вершаў і прозы, што ёсьць гатовымі ў пісьменьнікаў, сяброў Інстытуту, ды чакаюць матар'яльных магчымасьцяў друку. Прыгатаваныя сябрамі Інстытуту й аднатомнікі выбраных твораў Янкі Купалы ды Максіма Багдановіча.

Як Інстытут, так і часапіс быў вельмі прыхільна (з малымі выняткамі) сустрэнуты беларускім грамадзянствам, аб чым сьветчаць як добрыя водзывы, так і рэцэнзыі аб ЗАПІСАХ як у сваёй, так і чужамоўнай прэсе. Беларуская Бібліяграфічная Служба й Аб'яднаньне Беларускіх Лекароў на Чужыне прызналі Інстытут як галоўную беларускую навуковую ўстанову ды скаардынавалі сваю працу з Інстытутам у форме афіліяцыі.

За першы год была навязаная ўжо й некаторая сувязь ды супрацоўніцтва з іншамоўнымі навуковымі ўстановамі й арганізацыямі. У такой сувязі асабліва памоцны часапіс. Сяньня больш сотні экзэмпляраў ЗАПІСАЎ рассылаецца ў унівэрсытэцкія, агульныя й спэцыяльныя бібліятэкі сьвету, або як выменныя экзэмпляры іншамоўным навуковым выдавецтвам. ЗАПІСЫ ідуць у галоўныя бібліятэкі Паўночнай і Паўдзённай Амэрыкі, у бібліятэкі больш дзесяці эўрапейскіх краінаў, і па пару экзэмпляраў у Азію (Ізраэль, Індыя), Афрыку (Эгіпт, Паўдзённая Вунія) ды Аўстралію.

Да галоўных перашкодаў у працы мінулага году трэба залічыць нястачу свайго адпаведнага памешканьня, абцяжанасьць ненавуковаю заработнаю працаю сяброў ды мінімальныя матар'яльныя сродкі (сяброўскія складкі толькі й ахвяры).

Зьезд, на якім было рэпрэзэнтавана больш 40 сяброў Інстытуту, выняс абсалютораю з падзякаю за працу ў мінулым годзе для ўступаючага старшыні Уладыкі Васіля й усёй управы. Зьезд абмяркаваў галоўныя заданьні для Інстытуту й новай Управы на ідучы год, даручаючы, між іншым, арганізаваць пры Інстытуце Усёбеларускі Архіў. Зьезд правёў дыскусыю над прапанаванымі зьменамі статуту ды прыняў канчатковы яго тэкст. Зьезд выбраў новую Управу Інстытуту ў складзе: старшыня — Янка Ліманоўскі, сябры Управы — В. Тумаш (заступнік старшыні), Н. Арсеньнева (сакратар), М. Панькоў (архівар) і Ул. Сядура. У Наглядную Раду выбраныя Л. Акіншэвіч — старшыня, Уладыка Васіль — заступнік старшыні, Р. Крушына — сакратар.

**Сьмерць Міколы Равенскага.** 9 сакавіка 1953 г. у Лювэне, Бэльгіі, памёр выдатны беларускі кампазытар, музыкавед і музычны крытык, дзейны сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва й сябра Міжнароднай Акадэміі Навук Цэнтральнай Эўропы. На атрыманую тэлеграфічную вестку аб сьмерці Міколы Равенскага Управа Інстытуту выслала Беларускай Студэнцкай Грамадзе ў Бэльгіі, якой нябошчык быў духовым апякуном, тэлеграму гэткага зьместу: „Управа Інстытуту адзіночыцца з Студэнцкаю Грамадою Бэльгіі ў глыбокім суме з прычыны сьмерці майстры беларускае песьні Міколы Равенскага". Сябры бэльгійскага аддзелу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва склалі на магіле нябошчыка вянок ад Інстытуту.

У Нью Ёрку памяць памерлага кампазытара й вучонага была ўшанаваная кароткімі прамовамі старшыні Інстытуту Я. Ліманоўскага й кампазытара Міколы Куліковіча на навуковым паседжаньні Беларускага Інстытуту 14 сакавіка, перад рэфэратам аб М. Карловічу. 22 сакавіка ў Нью Ёрку Уладыка Васіль адслужыў паніхіду па нябошчыку.

Мікола Равенскі быў хворы ўжо больш як ад году на цяжкую, хваробу лімфатычных залозаў. І нягледзячы на гэта, апошні год належыць да найбольш працавітых гадоў ягонага жыцьця. Яшчэ на дзень перад сьмерцяю, 8 сакавіка, Мікола Равенскі падыктаваў ліст да Інстытуту ў справе хуткай прыгатовы да друку зборніка беларускіх песьняў. Ліст, нажаль, прышоў ужо некалькі дзён пасьля тэлеграмы аб тым, што працавітае да апошняй хвіліны жыцьцё абарвалася.

Кароткі біяграфічны нарыс і агляд працы кампазытара ў музычнай галіне за апошнія гады даў у папярэднім нумары ЗАПІСАЎ музыкавед А. Карповіч. У гэтым памешчаныя па-

 

сьмертныя словы кампазытара Міколы Куліковіча. На просьбу Інстытуту А. Карповіч гатуе шырэйшую манаграфію аб жыцьці й творчасьці Міколы Равенскага.

**Навуковыя рэфэраты Інстытуту.** Ад часу выхаду апошняга нумару ЗАПІСАЎ у Беларускім Інстытуце ў Ню Ёрку былі прачытаныя такія рэфэраты:

9 лістапада 1953 г. рэфэрат кампазытара **Міколы Куліковіча: Старадаўныя інтанацыйна-ладавыя фармацыі ў беларускім песенным фальклёры.** Рэфэрат быў ілюстраваны прыкладамі на фартапіяне й сьпевамі ведамай опэрнай сьпявачкі Барбары Вержбаловіч. Паводле прэлегента, старадаўнасьць беларускіх інтанацыяў, ладоў і гукарадаў сягае да самых першабытных пачаткаў людзкое музычнае культуры. Прыраўнаць іх можна да музычнае спадчыны старадаўнага Кітаю ці дагістарычнае Грэцыі. Рознымі спосабамі, але па сутнасьці аднолькава, адлюстроўвалі гэтыя пабудовы жывыя размоўныя інтанацыі старавечнага людзкога грамадзтва. Гэтак нарадзіліся беларускія гукальныя ходы, клічы, звароты, — **бязь якіх ня** можа абыйсьціся ніводная беларуская песьня, — тэрцавыя лады, трыхордныя й тэтрахордныя (тры- й чатырагучныя) пабудовы. Пры вельмі глыбокім і эмацыянальным зьмесьце нашых песьняў, гэтыя абмяжаваныя трымя й чатырмя нотамі абсягіператварылі беларускую песьню ў недасяжны вузор музычнавакальнай мастацкай мініятуры й даюць высокае сьветчаньне аб ейных нязнаных удумлівых аўтарах.

31 студзеня 1953 г. рэфэрат **В. Тумаша: Беларускія культурныя ўплывы на Расею.** Рэфэрэнт зьвярнуў увагу на малаведамыя ў нас факты адвечных ды сталых культурных беларускіх уплываў на Расею, якія вякамі іншлі ад нас ці то як уплывы нашай старой культуры, ці то як уплывы нашай народнай культурнай творчасьці. Сьведама былі цытаваныя галоўна сьветчаньні аб гэтым самых расейскіх вучоных. Рэфэрэнт гаварыў аб агульных культурных уплывах, аб уплывах на асьвету Маскоўшчыны, друк, выгляд шрыфту; аб уплывах на маскоўскае правадаўства, асабліва аб уплывах Статуту Вялікага Княства Літоўскага на паўстаньне „Уложения" цара Аляксея Міхайлавіча; аб беларускіх уплывах на расейскае мастацтва й музыку, аб нашых моўных уплывах (фонэтыка й слоўнік). Як прыклад тыповага нашага „культураноса" у Маскоўшчыне была крыху шырэй прадстаўленая культурная роля Сымона Полацкага ў Маскве другой паловы XVII ст. Сымон Полацкі там адзначыўся як талентавіты красамоўца, як першы вершапісец, як драматург, як пэдагог, як актыўны тэалёг. Ува ўсіх гэтых галінах расейскай культуры ён пакінуў свой немалы гістарычны сьлед.

14 сакавіка 1953 г. рэфэрат **М. Куліковіча: Аб беларускіх элемэнтах у музычных творах польскага кампазытара М. Карловіча.** Галоўныя думкі з гэтага рэфэрату пададзеныя ў рэцэнзыі М. Куліковіча на кнігу Хібінскага аб жыцьці й творчасьці Карловіча, памешчанай у гэтым нумары ЗАПІСАЎ.

21 лютага 1953 г. адбыўся вечар паэзіі **Рыгора Крушыны,** на якім паэта асабіста адчытаў свае навейшыя, пераважна недрукаваныя, творы. Паэта паказаў, што й у сваіх апошніх вершах ён астаўся надалей майстраю найбольш інтымнае галіны лірычнае паэзіі — лірыкі каханьня, чым Крушына выдзяляецца й адзначаецца як сярод сучасных нашых лірыкаў эміграцыі, так і сярод сваіх паэтычных папярэднікаў. У новых творах зазначецца выразны рост пісьменьніка ў галіне фармальнай. Вечар паказаў, што гады ад выхаду зборніка паэты „Чорная лебедзь" не змарнаваныя.

**Усёбеларускі Архіў.** Выконваючы даручэньне Агульнага Зьезду з 14 сьнежня 1952 г., Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прыступіла да арганізаваньня ў Ню Ёрку **Усёбеларускага Архіву** беларускай эміграцыі.

Управа Беларускага Інстытуту робіць стараньні, каб так патрэбная ўстанова была якнайхутчэй адчыненая й аддадзеная для карыстаньня ўсяму беларускаму грамадзянству бяз розьніцы палітычных паглядаў ці груповай прыналежнасьці.

Праведзеная пачатковая праца паказала, што арганізаваньне Архіву — справа насьпелая, і ўжо шмат хто згадзіўся перадаць свае прыватныя зборы для агульнага карыстаньня ці то на собскасьць Архіву, ці на ўмовах дэпазыту.

Усёбеларускі Архіў будзе складацца з трох галоўных аддзелаў: **архіўнага, музэйнага й бібліятэчнага.** Архіўны аддзел зьбірае й перахоўвае акты, дакумэнты, рукапісы, успаміны, фатаграфіі, біяграфічныя й падобныя матар'ялы з гісторыі Беларусі й з гісторыі й жыцьця беларускай эміграцыі.

Музэйны аддзел зьбірае памяткі й прадметы, што маюць гістарычную, навуковую, мастацкую, этнографічную ці іншую вартасьць для будучых пакаленьняў. Сюды маюць належыць і творы беларускіх мастакоў, як абразы, скульптура, зарысоўкі, а таксама творы чужых мастакоў зь беларускаю тэматыкаю.

Бібліятэчны аддзел будзе намагацца канцэнтраваць ды ахоўваць усе друкі беларускія й аб Беларусі, як кнігі, брашуры, часапісы, газэты, ноты, паштоўкі, лістоўкі і г. д.

Інстытут бярэ на сябе абавязак і адказнасьць за справу аховы збораў ды за даступнасьць іх для навуковых і грамадзкіх патрэбаў. Дзеля сталай рупнасьці аб ахове сабраных каштоўнасьцяў і аб разьвіцьці Архіву, мае быць пакліканая з прадстаўнікоў грамадзянства адумысловая Архіўная Рада, як наглядна-дарадчы орган кіраўніцтва Архіву.

Управа Беларускага Інстытуту паручае гэтую так важную й неабходную з нацыянальна-грамадзкага гледзішча ўстанову ўвазе й матар'яльнай ды маральнай апецы беларускай эміграцыі ўсіх краінаў сьвету, ды заклікае да перасыланьня ў Усёбеларускі Архіў вышэй пералічаных матар'ялаў. Просіцца таксама ўсе беларускія выдавецтвы перасылаць найменш па 3 экзэмпляры усіх сваіх выданьняў для Архіву. За большую колькасьць Архіў будзе заўсёды вельмі ўдзячны, бо лішнія экзэмпляры будуць выкарыстаныя для вымены зь іншанацыянальнымі архівамі й бібліятэкамі, лучнасьць зь якімі ўжо навязываецца.

Лісты, друкі, экспанаты трэба адрысаваць на дырэктара Усёбеларускага Архіву Міколу Панькова:

Mr. Nicolaus Pankou, Director,
All-Whiteruthenian Archives
56-49, 59 Place,
MASPETH 78, L. I., N. Y.
U. S. A.

 

 

**Беларуская мова на Гарвардзкім Унівэрсытэце.** З асеньняга сэмэстру сялетняга году на Гарвардзкім Унівэрсытэце мае быць адкрыты курс беларускай і ўкраінскай моваў. Вясьці курс будзе ведамы ўкраінскі мовавед праф. др. Юры Шэрэх. Курс будзе ведзены паангельску. Падчас першага асеньняга сэмэстру будуць дадзеныя першыя ўводныя лекцыі зь беларускай мовы з паданьнем гістарычнай асновы, гістарычнага разьвіцьця ды структуры. У другім, веснавым, сэмэстры будуць адбывацца чытаньні, разбор ды паясьненьні тэкстаў беларускай мовы. Трэба тут адцеміць, што пасьля адкрыцьця, курс нашай мовы на Гарвардзкім Унівэрсытэце будзе першым унівэрсытэцкім курсам беларускай мовы на прасторы ЗДА.

**Лекцыі беларусаведы на ўнівэрсытэце ў Ґетынґен.** Пры славянскім сэмінары унівэрсытэту ў Ґетынґен, Нямеччына, існуе група маладых нямецкіх славістаў ды студэнтаў якія цікавяцца пытаньнямі беларусаведы. На іхную просьбу ўжо ў летнім сэмэстры гэтага году арганізуецца на ўнівэрсытэце курс лекцыяў зь беларусаведы. Лекцыі будзе чытаць дацэнт славістыкі Украінскага Вольнага Унівэрсытэту ў Мюнхене др. Алекса Гарбач, які цяпер ёсьць лектарам украінскай і польскай моваў на ўнівэрсытэце ў Ґетынґен.

## ЗЬМЕСТ




Часапіс рэдагуе РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Выдавец: БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА, Ню Ёрк, ЗША.
Выпіска на год $ 4.00. Цана аднэй кніжкі — $ 1.00.

Лісты, матар'ялы, грошы трэба слаць на адрыс:
**Mrs. N. Kushel, Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences,**
**435 New Jersey Avenue, BROOKLYN 7, N. Y., U. S. A.**

**Published quarterly by the Whiteruthenian (Byelorussian) Institute of Arts and Sciences. New York, N. Y., U. S. A.**
**Subscription per year $ 4.00.**